# № 12-13 „ПАРТРАБОТНІК“



Галоўлітбел № 2741 Зак. № 3645 У ліку 2000 экз. „Палесдрук“, Гомель.

# ПАРТЫЙНЫ РАБОТНІК

Орган ЦК КП(б)Б

№ 12-13 | Верасень 1930 г. | № 12-13


## УСЕ СІЛЫ НА ВЫКАНАНЬНЕ ПРАГРАМЫ ТРЭЦЯГА ГОДУ ПЯЦІГОДКІ

### Да ўсіх партыйных, гаспадарчых, прафсаюзных і камсамольскіх арганізацый

Праз месяц пачынаецца новы гаспадарчы год—трэці год пяцігодкі. Гэты надыходзячы год высоўвае шэраг важнейшых і адказьнейшых гаспадарчых і палітычных задач. Ён мае рашаючае значэньне для выкананьня пяцігодкі ў чатыры гады і павінен забясьпечыць пераход ня менш чым паловы сялянскіх гаспадарак на сацыялістычны шлях, на шлях калектывізацыі.

Трэці год пяцігодкі азначае новы гіганцкі крок у справе індустрыялізацыі СССР. Адзін толькі прырост прадукцыі за 1930-31 г. будзе роўны ўсёй даваеннай прамысловай вытворчасьці. У трэцім годзе пяцігодкі, побач з закончанымі і ўступаючымі ўжо ў эксплёатацыю Сталінградзкім трактарным заводам, Растоўскім заводам сельгасмашынабудаўніцтва і іншымі новымі заводамі, трэба забясьпечыць разгортваньне на поўны ход будаўніцтва такіх гігантаў, як Магнітастрой, на будаўніцтва якога павінна быць затрачана за 1 год больш 200 мільёнаў рублёў, Кузьнецкстрой, Ніжагародзкі аўтазавод, Харкаўскі і Чалябінскі трактарныя, Уральскі гігант цяжкога машынабудаўніцтва, першая чарга буйнейшых хэмічных камбінатаў Бярэзьнікаўскага і Бобрыкаўскага, Саратаўскі камбайны і г. д. Пераважная большасьць гэтых заводаў, якія па магутнасьці сваёй пераважваюць усё, што краіна мела дагэтуль у галіне мэталюргіі, хэміі і машынабудаўніцтва, павінны быць пушчаны ў ход на працягу 3-га году пяцігодкі, адны поўнасьцю, другія на першую чаргу.

Акрамя таго, у надыходзячым годзе пачынаецца будаўніцтва такіх новых заводаў, як Ніжнятагільскі і Марыўпальскі мэталюргічныя і Дняпрокамбінат у складзе цэлага шэрагу буйнейшых новых заводаў. У 1930-31 г. мы павінны дабіцца першых буйных вынікаў у ажыцьцяўленьні дырэктывы XVI зьезду аб утварэньні новай вугальнай мэталюргічнай базы ў СССР—Урала-Кузьнецкага камбінату.

Праграму будучага году вызначаюць наступныя рашаючыя лічбы: 7,5 млн. тон чыгуну, 74,5 млн. тон вугалю, на 2,5 млрд. руб. новых машын, акрамя таго, на 845 млн. рублёў сельска-гаспадарчых машын і 745 тысяч конскіх сіл новых трактараў.

Посьпехі ў разьвіцьці цяжкое індустрыі і рост сельска-гаспадарчай сыравіннай базы (пашырэньне пасеўных плошчаў, павышаны ўраджай бавоўны, буракоў і шэрагу іншых тэхнічных культур) забясьпечваюць значна больш высокі, чым у мінулыя гады, тэмп росту лёгкай прамысловасьці. Побач, з правядзеньнем іншых мер, гэта ўтварае прадпасылкі для палепшаньня забясьпечаньня прадметамі шырокага спажываньня і для зьмякчэньня таварнага голаду.

Ажыцьцяўленьне гэтай вытворчай праграмы патрабуе рашучага палепшаньня якасьці ўсёй гаспадарчай работы. Усе якасныя паказчыкі работы прамысловасьці, і ў першую чаргу паказчыкі сабекошту і вытворчасьці працы, павінны быць значна павышаны і на працягу году павінны выконвацца з бязумоўнай дакладнасьцю. Бяз гэтага ня могуць быць забясьпечаны тое разгортваньне вытворчасьці і той аграмадны плян капітальных работ, якія намечаны на 1930-31 год.

Гэта праграма разьвіцьця прамысловасьці непарыўна зьвязана з новымі агромністымі заданьнямі для транспарту (чыгуначнага і воднага), прад'яўляючы да яго такія высокія патрабаваньні, якія ня могуць быць выкананы без карэннага і хутчэйшага палепшаньня ўсёй арганізацыі транспарту і без актыўнага ўдзелу ў гэтай справе ўсёй масы чыгуначнікаў і воднікаў—рабочых і тэхнічнага пэрсаналу.

У будучым 1930-31 г. мы павінны забясьпечыць таксама бальшавіцкія тэмпы разьвіцьця сацыялістычнага і калгаснага сэктару ў сельскай гаспадарцы, выкананьне аграмадных вытворчых праграм такіх арганізацый, як збожжатрэст, жывёлавод, сьвінавод і інш., забясьпечыўшы разгорнутае сацыялістычнае будаўніцтва на вёсцы поўным ажыцьцяўленьнем заданьняў па вырабу сельска-гаспадарчых машын, трактароў і хэмічных угнаеньняў.

Выкананьне ўсёй гэтай гіганцкай гаспадарчай праграмы магчыма толькі пры самай актыўнай і пільным безадкладнай мабілізацыі ўсіх сіл рабочае клясы, усіх партыйных арганізацый, усіх прафсаюзаў, усяго камсамолу і ўсіх без выключэньня гаспадарчых органаў. Неразуменьне гэтага ёсьць забыцьцё асноўнага бальшавіцкага абавязку ў справе забесьпячэньня посьпехаў будаўніцтва сацыялізму і зьяўляецца простым злачынствам перад партыяй з боку перш за ўсё кіраўнікоў гэтых арганізацый. Прызнаньне на словах генэральнай лініі партыі і няпрыняцьце на справе самых рашучых і сваячасовых мер па мабілізацыі ўсяе рабочае клясы для выкананьня гэтай гаспадарчай праграмы недастойна бальшавікоў і ўяўляе сабою горшы выгляд правага апартунізму на практыцы.

Толькі безадкладным разгортваньнем работы па падрыхтоўцы выкананьня вытворчай праграмы прамысловасьці будучага году можна забясьпечыць ажыцьцяўленьне бальшавіцкіх тэмпаў разьвіцьця індустрыі, прынятых XVI зьездам партыі.

Важнейшай умовай выкананьня прамфінпляну будучага году зьяўляецца выкананьне прамфінпляну 1929-30 г. Бальшавіцкая падрыхтоўка да выкананьня гіганцкай вытворчай праграмы трэцяга году пяцігодкі заключаецца ў бязумоўным выкананьні прамфінпляну бягучага году.

Другі год пяцігодкі—год буйнейшых дасягненьняў сацыялістычнай індустрыі. Буйная сацыялістычная прамысловасьць за 10 месяцаў павялічыла сваю валавую прадукцыю на 27 проц., паказаўшы рэкордныя тэмпы росту за ўвесь рэканструкцыйны пэрыод. Цяжкая індустрыя, гэта аснова сацыялізму, за той-жа пэрыод павялічыла памеры сваёй вытворчасьці на 39,5 проц. Аб'ём капітальнага будаўніцтва за 10 мес. вызначаецца ў 2,4-2,5 млрд. руб. Але за гэтымі посьпехамі і дасягненьнямі мы не павінны праглядзець таго сур'ёзнага прарыву, які выкрыўся ў ходзе выкананьня прамысловасьцю ўстаноўленага пляну.

Прырост прамысловай прадукцыі за 10 месяцаў на 27 проц. сьведчыць аб рэзкім адставаньні ад устаноўленага плянам прыросту ў 32 проц. Ня выконваецца плян ня толькі па лёгкай індустрыі, што абумоўлівалася ў бягучым годзе ў пэўнай меры недахопам сыравіны, але, што асабліва важна, значна ня выконваецца таксама вытворчая праграма

па цяжкой індустрыі. Яўнае паслабленьне работы прамысловасьці за апошнія месяцы стварыла простую пагрозу зрыву прынятай партыяй і савецкай уладай гадавой вытворчай праграмы. Замест бальшавіцкіх тэмпаў па шэрагу галін прамысловасьці назіраецца ў апошні час ганебнае зьніжэньне тэмпаў, апартуністычная стаўка на самацёк.

Яўна нездавальняючы таксама ход капітальнага будаўніцтва. Плян капітальнага будаўніцтва за першыя 3 кварталы выкананы менш, чым напалову. Асабліва ганебна адставаньне капітальнага будаўніцтаў па Будаб'яднаньню, Усехэмпраму, Коксагазхэму, Новасталі, Машынааб'яднаньню, Саюзсельмашу. Гэтыя недапушчальныя зьявішчы ў капітальным будаўніцтве ствараюць пагрозу прынятым тэмпам прамысловага разьвіцьця, пагрозу выкананьню пяцігодкі ў чатыры гады.

Важнейшай прычынай невыкананьня вытворчых заданьняў у прамысловасьці, і асабліва ў асноўных яе галінах, зьяўляецца адсутнасьць належнай энэргіі і ініцыятывы ў справе мабілізацыі ўнутраных рэсурсаў: недастатковае скарыстаньне наяўнага абсталяваньня, нізкі каэфіцыент зьменнасьці, адсутнасьць энэргіі ў перамаганьні «вузкіх месц» прадпрыемства, частыя прастоі абсталяваньня з-за неналаджанасьці і неарганізаванасьці матар'яльна-тэхнічнага забясьпечаньня, шматлікавыя аварыі з-за злачыннай нядбайнасьці і дрэннага тэхнічнага кантролю, адсутнасьць сыстэматычнай рацыяналізатарскай работы і крайняя нездавальняючасьць унутрызаводзкага плянаваньня. Замест бальшавіцкай барацьбы з консэрватызмам у тэхніка-вытворчым кіраўніцтве прадпрыемствамі, замест рэвалюцыйнай дбайнасьці ў адносінах да шкоднікаў і мабілізацыі актыўнасьці перадавых рабочых для садзейнічаньня разгортваньню работы прадпрыемстваў нярэдка гаспадарнікі плятуцца ў хвасьце закаранелай часткі спэцыялістых, а і часам проста шкоднікаў, не аказваюць належнага падтрыманьня больш перадавой часткі інжынэраў і тэхнікаў, адрываюцца ад рабочага актыву, г. зн. на практыцы абмяжоўваюцца бюракратычнымі мэтадамі работы.

Найбольш адмоўна вынікі ўсяго гэтага сказаліся ў машынабудаўніцтве агульным і сельска-гаспадарчым, а таксама ў чорнай мэталюргіі і каменнавугальнай прамысловасьці. Так, выясьніўшаяся магчымасьць павялічэньня ў будучым годзе праграмы па машынабудаўніцтву ўдвая паказвае, наколькі вялікі нескарыстаныя рэзэрвы магутнасьці нашых прадпрыемстваў. Пасьпяховае выкананьне павышаных заданьняў, напрыклад, такімі прадпрыемствамі, як Электразавод, Паўднёва-рудная прамысловасьць (Крывы Рог), старыя папяровыя фабрыкі, зьяўляецца вынікам барацьбы за выкарыстаньне ўнутраных рэсурсаў прадпрыемства. Аднак, такіх прыкладаў яшчэ занадта мала, прыклады-ж закаранеласьці і бюракратызму ў скарыстаньні ўнутраных рэсурсаў прамысловасьці сустракаюцца на кожным кроку.

Шматлікія факты яўна раздутых патрабаваньняў на імпартнае абсталяваньне, бяз спроб выкарыстаць унутраныя рэсурсы прамысловасьці, зьяўляюцца адным з самых яскравых прыкладаў бюракратычных адносін гаспадарчых кіраўнікоў да сваіх абавязкаў і часьцяком адлюстроўваюць апартуністычнае нявер'е ў магчымасьць сацыялістычнай індустрыі. Між тым, нярэдкі яўна беспадстаўныя спробы апраўдаць невыкананьне прамысловых заданьняў недастатковасьцю імпарту. Калі-б нашы партыйныя, прафэсійныя і гаспадарчыя арганізацыі па прыкладу некаторых заводаў, як ленінградзкі мэталёвы завод імя Сталіна (пашырэньне турбабудаўніцтва), праявілі сапраўдную ініцыятыву ў справе выкарыстаньня вытворчых рэсурсаў нашых заводаў, дык прамысловасьць атрымала-б дадатковыя магчымасьці ня толькі для выкананьня, але і значнага перавыкананьня пляну.

У шэрагу выпадкаў, як-та: у нафтавай прамысловасьці, у руднай прамысловасьці Ўралу і каляровай мэталюргіі, невыкананьне вытворчага пляну выклікаецца, у першую чаргу, яўнай нездавальняючасьцю ходу падрыхтоўчых работ—разьведак, бурэньня, праходкі шахт, што стварае паргозу далейшаму разьвіцьцю адпаведных галін індустрыі. Такое станові-

шча асабліва недапушчальна з прычыны выключнай важнасьці гэтых галін прамысловасьці.

Асаблівае значэньне для выканаьня прамысловага пляну ў гэтым годзе мелі адбыўшыяся зьмены ў гаспадарчых абставінах, якія адбіліся асабліва моцна ў пытаньні аб рабочай сіле і, перш за ўсё, у пытаньні аб яе цякучасьці. Вялізарны размах сацыялістычнай індустрыялізацыі, уцягненьне ў сувязі з гэтым у вытворчасьць усіх старых кадраў рабочых і вялізарнага пласту новых рабочых, асабліва з вёскі, і адначасна з гэтым разгарнуўшаеся калгаснае і саўгаснае будаўніцтва, пры наяўнасьці да таго-ж павышанага ўраджаю,—унесьлі буйнейшыя зьмены ў параўнаньні з тым пэрыодам, калі кадры беспрацоўных у гарадох былі параўнаўча яшчэ значныя, а ў дробных індывідуальных сялянскіх гаспадарках асабліва востра адчуваўся лішак вольных рабочых рук.

Гэтыя зьмены ў абставінах ня былі ўлічаны гаспадарчымі органамі і прафсаюзамі. Між іншым, у сувязі з імі стаіць, з аднаго боку, прыліў у прамысловыя прадпрыемствы новых рабочых, не прайшоўшых школы буйнай вытворчасьці і нярэдка насычаных дробна-ўласьніцкімі, рвацкімі настроямі, і, з другога боку, адліў пэўнай часткі гэтых рабочых у вёску, асабліва ў пэрыод уборачных работ і разьмеркаваньня ўраджаю. Замест сапраўднага вучоту стварыўшыхся абставін і прыняцьця неабходных захадаў (па лініі разьвіцьця пралетарскай грамадзкасьці, адпаведнага прыстасаваньня арганізацыі забясьпечаньня рабочых, прэм'яваньня лепшых вытворцаў і г. д.) для замацаваньня рабочага складу на прадпрыемствах і рашучай барацьбы з рвацкімі, выпадковымі для прадпрыемства элемэнтамі (лятунамі і г. д.), гаспадарчыя органы і прафсаюзы, а таксама партыйныя арганізацыі праявілі зусім недапушчальную пасыўнасьць у гэтай справе і тым самым дапусьцілі значнае разьвіцьцё цякучасьці рабочай сілы.

Асабліва трэба ўказаць на бюракратычныя адносіны да гаспадарчых задач з боку органаў Наркампрацы, а таксама некаторых прафсаюзаў. Даволі сказаць, што пры яўна выражаным недахопе рабочых на фабрыках і заводах, шахтах і на будаўніцтвах ва ўсіх прамысловых раёнах органы Наркампрацы да апошняга часу абмяжоўваліся друкаваньнем бюракратычных «даных» аб сотнях тысяч беспрацоўных і выплачвалі дзесяткі мільёнаў рублёў дапамогі «па беспрацоўю», не вядучы барацьбы з рвацкімі элемэнтамі, лятунамі, якія адмаўляюцца ад работы і г. д.

Ня меншы бюрократызм і няздольнасьць да вырашэньняў новых задач паказала спажывецкая каапэрацыя, якая ня здолела правесьці неабходную перабудову сваёй работы ў адпаведнасьці з задачай замацаваньня рабочага складу на вытворчасьці, мабілізаваць свае вытворчыя магчымасьці для сапраўднага палепшаньня забясьпечаньня рабочых, разгарнуць масавы кантроль з боку рабочых і работніц над работай усіх органаў каапэрацыі. Адказнасьць за гэта ляжыць у пэўнай меры і на органах Наркамгандлю.

Найбольш яскравым праяўленьнем разгубленасьці гаспадарчых органаў і ня прыняцьця імі сваячасовых захадаў для барацьбы з цякучасьцю, якая падрывае працоўную дысцыпліну і ўносіць дэзарганізацыю ў вытворчасьць, трэба прызнаць стварыўшаеся ў сувязі з новымі гаспадарчымі абставінамі становішча з рабочай сілай на прадпрыемствах «Саюзвугалю», Уралу, на шэрагу пабудоў і нават на паасобных прадпрыемствах Масквы і Ленінграду, якое прывяло да буйнейшых прарываў у вытворчых праграмах. Галоўным і рашаючым недахопам у гаспадарчай рабоце застаецца няўменьне арганізаваць і стаць на чале бурна растучай актыўнасьці рабочае клясы. Ня гледзячы на гіганцкі размах сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва на фабрыках і заводах, нашы гаспадарчыя, прафэсійныя, камсамольскія і партыйныя арганізацыі нярэдка адстаюць у гэтай справе, а падчас апартуністычна плятуцца ў хвасьце пралетарскага актыву (прыклад Сормава і інш.).

Разьвіцьцю сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва нямала спрыяе давядзеньне заданьняў вытворчай праграмы да цэху, да брыгады, да асобнага варштату. З другога боку, на аснове разь-

віцьця пралетарскай актыўнасьці, выкарыстаньня вытворчых дасягненьняў ударнікаў, іх рацыяналізатарскай ініцыятывы, а таксама сапраўднага вучоту на практыцы рабочых прапаноў у справе карыстаньня рэзэрваў вытворчай магутнасьці, сацыялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва пераходзяць на больш высокую ступень. Гэта знаходзіць сабе адлюстраваньне ў выпрацоўцы рабочымі фабрык і заводаў сустрэчнага прамфінпляну, значэньне якога заключаецца ў большай эканоміі рэсурсаў прадпрыемства пры ажыцьцяўленьні вытворчай праграмы, у павышэньні якасьці прадукцыі і асабліва ў далейшым паскораньні бальшавіцкіх тэмпаў прамысловага будаўніцтва. Сустрэчны прамфінплян набывае асаблівае значэньне як мэтад сапраўднага ўцягненьня ўсіх рабочых у справу сацыялістычнага будаўніцтва і як важнейшы сродак барацьбы з контррэвалюцыйным шкодніцтвам.

Аднак, на справе ў шмат якіх выпадках з боку партыйных і інш. заводзкіх арганізацый ня толькі няма належнай падтрымкі рабочай ініцыятывы ў выпрацоўцы сустрэчнага прамфінпляну, але і адсутнічае належная арганізацыя сацыялістычнага спаборніцтва ў яго розных і ўсё новых формах (скразныя ўдарныя брыгады, грамадзкі буксір і інш.), а бяз гэтага нельга забясьпечыць бальшавіцкіх тэмпаў разгорнутай сацыялістычнай індустрыі. Усё яшчэ шматлікі выпадкі ілжэўдарніцтва ў прамысловасьці і на транспарце, усё яшчэ нямала фармальна-бюракратычных адносін да спаборніцтва. Усё яшчэ нямалая частка членаў партыі не разумее ролі і абавязкаў камуністых на прадпрыемстве, як застрэльшчыкаў у барацьбе за выкананьне прамфінпляну.

З боку гаспадарнікаў, якія стаяць на сапраўды перадавых пастох сацыялістычнай будоўлі, нярэдка яшчэ няма сьвядомасьці выключнай адказнасьці за сваю справу і няма разуменьня бязумоўнай абавязковасьці цьвёрдае правядзеньне адзінаначальля на прадпрыемстве злучыць з уменьнем абаперціся ва ўсёй сваёй рабоце на партыйныя, прафсаюзныя і камсамольскія арганізацыі, на ўвесь камуністычны і беспартыйны актыў рабочых і работніц.

Буйнейшыя недахопы сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва знайшлі сваё адлюстраваньне ў выявіўшыхся вытворчых прарывах і ў стварыўшайся сур'ёзнай пагрозе зрыву прамфінпляну гэтага году.

Стварыўшаеся ў прамысловасьці становішча патрабуе рашучых і безадкладных мер па мабілізацыі сіл усяе партыі і ўсяе рабочае клясы для выкананьня прынятага партыяй прамысловага пляну бягучага году. Гэта тым болей неабходна і тым болей неадкладна, што ліквідацыя выкрытага прарыву ў прамфінпляне зьяўляецца асноўнай умовай для забесьпячэньня выкананьня вытворчай праграмы трэцяга году пяцігодкі.

З гэтага выцякаюць наступныя асноўныя задачы партыі і ўсяе рабочае клясы:

1) Усе сілы партыйных і камсамольскіх арганізацый, прафсаюзаў і гаспадарчых органаў—на разьвіцьцё справы сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва, на падтрыманьне ініцыятывы рабочых у гэтай справе ва ўсіх яе формах (скразныя ўдарныя брыгады, грамадзкі буксір і інш.), усе сілы—на разгортваньне сустрэчнага прамфінпляну на фабрыках і заводах, у шахтах і на пабудовах, на чыгуначным і водным транспарце.

ЦК цалкам і поўнасьцю падтрымлівае ініцыятыву ЎсеЦСПС па арганізацыі на працягу верасьня разгорнутай кампаніі прафсаюзаў за сустрэчны прамфінплян, за арганізацыю 1-га кастрычніка ўсесаюзнага «дня ўдарніка». ЦК указвае на тое, што толькі пры безадкладным і прытым не на словах, а на справе ўцягненьні ў гэтую кампанію ўсіх прафсаюзных арганізацый яна стане сапраўдным сродкам ліквідацыі прарываў у прамысловым пляне і забясьпечыць выкананьне вытворчай праграмы.

2) Зараз-жа правесьці мерапрыемствы, якія-б забясьпечвалі рашучае ўзмацненьне працоўнай дысцыпліны і сапраўдную барацьбу з расхлябанасьцю, прагуламі. Гэтыя мерапрыемствы павінны забясьпечыць хутчэйшы пералом у справе падняцьця вытворчасьці працы і ажыцьцяўленьня на справе адзінаначальля ў гас-

падарчым кіраўніцтве, без чаго немагчыма перамога стварыўшыхся цяжкасьцяй у прамысловасьці.

3) Забясьпечыць разьвіцьцё вытворча-тэхнічнай ініцыятывы інжынэраў і тэхнікаў і ўсямерна фарсаваць выпрацоўку новых кадраў з рабочае клясы, больш сьмела і настойліва высоўваючы перадавікоў-рабочых і асабліва рабочых-арганізатараў спаборніцтва на гаспадарчыя пасты, перамагаючы пры гэтым закаранеласьць, бюракратызм і апартуністычнае нявер'е ў сілы рабочае клясы.

4) У мэтах барацьбы з цякучасьцю на прадпрыемствах правесьці сыстэму мерапрыемстваў, якія-б забясьпечвалі замацаваньне рабочых на вытворчасьці шляхам адпаведнага разьвіцьця пралетарскай грамадзкасьці, правядзеньня самаабавязацельстваў рабочых перад пралетарскай грамадзкасьцю аб рабоце на даным прадпрыемстве ня менш пэўнага тэрміну і ўжыцьця ўсіх мер грамадзкага ўзьдзейнічаньня аж да байкоту злосных дэзэртыраў з вытворчасьці, а таксама ўстанаўленьня сыстэмы розных форм прэм'яваньня і забясьпечаньня, стымулюючых працяглыя тэрміны прабываньня рабочага на заводзе.

З прычыны неадпаведнасьці шэрагу законадаўчых норм і, у прыватнасьці, палажэньня аб біржах працы ў сучасных гаспадарчых абставінах, тэрмінова зрабіць перагляд гэтых норм пад кутом погляду адмены іх у той іх частцы, якая затрудняе барацьбу з лятунамі, дэзэртырамі з вытворчасьці і г. д., і разам з тым забясьпечыць узмоцненае ўцягненьне ў вытворчасьць рабочай моладзі, а таксама жонак рабочых і іншых працоўных.

5) Арганізацыя справы забясьпечаньня рабочых мае важнейшае значэньне ў справе выкананьня прамфінпляну. У мэтах палепшаньня арганізацыі разьмеркаваньня, каапэрацыі неабходна разгарнуць апраўдаўшыя сябе такія формы, якія ў найбольшай меры забясьпечваюць інтарэсы вытворчых рабочых (закрытыя разьмеркавальнікі, прымацаваньне рабочых пайнікаў да магазынаў, бязьлітасная барацьба з крадзежам у каапэрацыйным апараце, узмоцненыя рэпрэсіі за злоўжываньні карткамі, талёнамі і г. д.), і фарсаваць у прамысловых раёнах арганізацыю прыгарадных гаспадарак (агародных, малочных, жывёлагадоўчых). Партыйныя, прафэсыянальныя, камсамольскія і гаспадарчыя арганізацыі павінны аказаць усялякую дапамогу разьвіцьцю самадзейнасьці рабочых у гэтай справе, умацаваць каапэрацыю і ўсямерна ўзмацніць разьвіцьцё масавага кантролю рабочых і работніц над работай каапарату.

6) Друк правеў на аснове разгортваньня самакрытыкі вялікую работу ў справе мабілізацыі рабочых мас для выкананьня прамфінпляну. Разам з гэтым, у шмат якіх выпадках абмяжоўваючыся лавархоўнай кампанейскай агітацыяй, друк не дабіўся завостраньня барацьбы супроць рашаючых канкрэтных недахопаў гаспадарчай работы і не спраўляўся з задачай сваячасовай арганізацыі мас вакол новых пытаньняў, якія высоўваліся зьменамі ў гаспадарчых абставінах.

7) Рашучая барацьба з паслабленьнем тэмпу работы ў сувязі з летнімі водпускамі, якія прынялі ў шэрагу гасп. органаў бясчынную форму астаўленьня ўстаноў без кіраўніцтва і ўяўляюць адну з сур'ёзьнейшых перашкод для выкананьня бягучага прамфінпляну і падрыхтоўкі да 3-га году пяцігодкі. Без безадкладнага і рашучага зьнішчэньня дэмабілізацыйных настрояў гэтага году, якія зьяўляюцца аднэй з яўных праяў апартунізму на практыцы, мабілізацыя партыйных сіл і рабочых для ліквідацыі прарыву і выкананьня вытворчых заданьняў застаецца толькі словамі.

Вось важнейшыя задачы сёньняшняга дня.

Вытворчая праграма бягучага году і гаспадарчы плян трэцяга году пяцігодкі азначаюць практычную праграму сацыялістычнага будаўніцтва і разгорнутае наступленьне на капіталістычныя элемэнты па ўсім фронце. Ня гледзячы на выяўленыя буйнейшыя недахопы ў ажыцьцяўленьні вытворчых заданьняў, будаўніцтва сацыялізму пераможна прасоўваецца ўперад, бязьлітасна руйнуючы на сваім шляху ўсякія спробы супраціўленьня клясавага ворага (кулакоў, контррэвалюцыйных шкоднікаў, буржу-

азных рэстаўратараў, у тым ліку і тыпу Громана, Кандрацьцева, Суханава). Правыя панікёры, гэтыя падгалоскі кулацтва, і трацкісцкія элемэнты, якія пераварыліся на справе з учарайшых «левых» у фактычных падпявал правых апартуністых, а таксама ўсякага роду прымірэнцы да правых і трацкістых зьяўляюцца выказьнікамі буржуазнага ўплыву на пралетарыят, і таму пранікненьне ў партыйнае асяродзьдзе ўсякага роду апартуністычных настрояў, падрываючых баяздольнасьць пралетарыяту ў яго разгорнутым наступленьні на капіталістычныя элемэнты, павінна сустракаць рашучы бальшавіцкі адпор. Гэта зьяўляецца асноўнай умовай пераможнага прасоўваньня сацыялізму ўперад і, забясьпечваючы бальшавіцкія тэмпы сацыялістычнага будаўніцтва, тым самым зьяўляецца прадпасылкай перамогі цяжкасьцяй, якія стаяць на шляху гэтага будаўніцтва.

Перасіленьне цяжкасьцяй, якія стаяць перад намі, перш за ўсё залежыць ад нашай работы, ад нашага ўменьня весьці пасьлядоўчую і непрымірымую барацьбу з расхлябанасьцю, разгільдзяйствам і бюракратызмам у нашых органах і асабліва ад нашай здольнасьці мабілізаавць рабочую клясу, якая зьяўляецца крыніцай хутка растучай і проста нявычэрпанай рэвалюцыйнай энэргіі, для справы барацьбы за камунізм.

Прамфінплян стаіць пад ударам. Гэтым ставіцца пад удар праграма трэцяга году пяцігодкі. Зробім з гэтага бальшавіцкі вывад:

Усе сілы партыі, усе сілы рабочае клясы—на выкананьне прамфінпляну, на забясьпечаньне праграмы трэцяга году пяцігодкі!

*ЦЭНТРАЛЬНЫ КАМІТЭТ УСЕСАЮЗНАЙ КАМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ БАЛЬШАВІКОЎ.*

**Міх. Лабадаеў**

# Хлебазагатоўкі і агітацыйна-масавая праца

Хлебазагатоўчая кампанія гэтага году зьяўляецца важнейшай гаспадарча-палітычнай кампаніяй і таму патрабуе мабілізацыі ўсіх сіл для яе пасьпяховага правядзеньня. Партыйныя арганізацыі павінны забясьпечыць цьвёрдае бальшавіцкае кіраўніцтва разгортваньнем хлебазагатовак і ўсю сваю работу арганізаваць так, каб сваячасова і поўнасьцю выканаць намечаныя пляны.

ЦК УсеКП(б) у сваёй пастанове ад 26 ліпеня г. г. аб арганізацыйных мерапрыемствах і мабілізацыі мас вакол хлебазагатовак паказаў на тое, каб:

«*Разгарнуць у кожнай вёсцы, калгасе, квартале (сотні, вучастку) на аснове сацыялістычнага спаборніцтва самую энэргічную арганізацыйна-масавую работу вакол хлебазагатовак, абапіраючыся ў гэтай рабоце на максымальную актывізацыю груп беднаты, калгасьнікаў, на камісіі садзейнічаньня хлебазагатоўкам, дэлегацкія сходы сялянак і калгасьніц, прафсаюзы, УсеЛКСМ*».

У гэтай-жа пастанове ЦК УсеКП(б), а потым і ў спэцыяльным лісьце ЦК КП(б)Б, мы маем шэраг паказаньняў аб формах мабілізацыі мас на выкананьне плянаў хлебазагатовак. Выключная гаспадарча-палітычная важнасьць хлебазагатовак для ўсяго жыцьця савецкай краіны патрабуе найбольш цьвёрдага і пасьлядоўнага кіраўніцтва з боку партыйных арганізацый і шырокага разгортваньня масавай работы.

Што-ж на справе?

Ход хлебазагатовак у жніўні месяцы і становішча работы вакол хлебазагатоўчай кампаніі сыгналізуюць аб небясьпецы несваячасовага выкананьня плянаў і апартуністычнай бязьдзейнасьці некаторых арганізацый. Мы ня спыняемся на лічбовых паказчыках хлебазагатовак і іх аналізе, строга прытрымліваючыся тэмы артыкулу. Дастаткова паказаць на тое, што *жнівеньскі плян ня выкананы*, а гэта ўжо характарызуе становішча агітацыйна-масавай работы толькі з адмоўнага боку.

Карыстаючыся інфармацыйнай зводкай інфарм.-статсэктару ЦК КП(б)Б, прасочым за тым, у якім становішчы знаходзіцца масавая работа ў зьвязку з хлебазагатоўкамі.

Вось паведамленьні з некаторых раёнаў.

*Чэрыкаўскі р.*—ячэйкі пытаньнем хлебазагатовак амаль не займаліся. Некаторыя ячэйкі ніякіх сходаў не праводзяць (Аніняльская, Ветрынская).

*Бялыніцкі*—яшчэ да гэтага часу яч. КП(б)Б і КСМ ня ўцямілі палітычнай важнасьці хлебазагатовак, не разгарнулі належнай растлумачальнай работы.

*Камарынскі*—кампанія працякае пры слаба разгорнутай растлумачальнай рабоце. Пастанова ЦК УсеКП(б) нідзе яшчэ не прапрацавана.

*Віцебск*—арганізацыі гораду не зьвяртаюць належнай увагі прыёму чырвоных абозаў, ніводзін абоз ня быў спатканы рабочымі арганізацыямі.

*Калінкавіцкі*—слабодзкая яч. не прыдала хлебазагатоўчай кампаніі палітычнага значэньня; вакол апошняй ня складзена грамадзкая думка, не абгавораны папярэдне на сходах і групах беднаты, яшчэ не даведзены плян да паселішч, калгасаў і кулацкіх двароў.

*Касьцюковіцкі*—падрыхтоўчая работа праходзіць слаба. Слабы ўдзел некаторых ячэек: пытаньне не абгаварвалася ні на бюро, ні на сходах, слабы ўдзел камсамолу, у выніку ўсяго заданьне да 25/VIII г. г. ня выканана.

*Лепельскі*—ня была праведзена работа сярод батрацтва і беднаты. Не мабілізавана ўвага грамадзкасьці.

*Віцебскі*—хлебазагатоўкі праходзяць па раёну марудна. Толькі некалькі дзён таму назад РК партыі вырашыў пытаньне аб хлебазагатоўках. Грамадзкая праца вакол гэтага не разгорнута. Дырэктывы ЦК КП(б)Б аб хлебазагатоўках не абгавораны на партыйных і камсамольскіх сходах.

Гэтыя невялічкія паведамленьні з часткі раёнаў сьведчаць аб нездавальняючым разгортваньні масавай работы ў сувязі з хлебазагатоўчай кампаніяй. Гэта, ня гледзячы на простыя паказаньні ЦК аб шырокім разгортваньні масавай работы. Праўда, зьвесткі пададзены за жнівень месяц, і трэба спадзявацца, што райкомамі належныя меры да разгортваньня работы прыняты, аднак, зусім зразумела, што для таго, каб дасягнуць належных вынікаў у верасьні, трэба разгортваць работу ў жніўні.

Зусім зразумела, што недавыкананьне жнівеньскага пляну хлебазагатовак знаходзіцца ў сувязі з слаба разгорнутай агітацыйна-масавай работай. Гэтайісьціны ня зусім уцямілі таварышы, якія непасрэдна зьвязаны з выкананьнем плянавых заданьняў. Такім чынам разам з гаспадарчымі мерапрыемствамі (падрыхтоўка тары і складаных памяшканьняў, сваячасовая дастаўка прамтавараў і т. п.) і арганізацыйнымі (сваячасовае складаньне плянаў, давядзеньне плянаў да вёсак, калгасаў і кулацкіх гаспадарак) неабходна вакол хлебазагатовак забясьпечыць правядзеньне шырокай агітацыйна-масавай работы.

Праводзячы агітацыйна-масавую работу вакол выкананьня хлебазагатоўчых плянаў, трэба цьвёрда памятаць, што хлебазагатоўкі праходзяць ва ўмовах жорсткай барацьбы. ЦК УсеКП(б) у сваёй пастанове адзначае наступнае:

*«ЦК падкрэсьлівае, што, ня гледзячы на значнае паслабленьне кулацтва ў выніку посьпехаў калектывізацыі і палітыкі ліквідацыі кулацтва як клясы, кулак усё яшчэ захаваў значную сілу ў шэрагу раёнаў, у асаблівасьці ў раёнах з нізкім працантам калектывізацыі.*

*ЦК прапануе парытйным арганізацыям падрыхтавацца і арганізаваць рашучы адпор кулацтву, мабілізуючы шырокія масы беднякоў і сераднякоў для пасьпяховага правядзеньня хлебазагатовак.*

У адносінах да кулацкіх гаспадарак, сельсаветы павінны ўстанавіць цьвёрдыя заданьні па здачы ў карацейшы тэрмін усіх таварных лішкаў дзяржаве».

Таму ўсю агітацыйна-масавую работу трэба накіраваць на мабілізацыю бядняцка-серадняцкіх мас сялянства для рашучага і арганізаванага адпору кулацтву, для поўнага выкананьня заданьняў па хлебазагатоўках.

У гэтай сувязі трэба паставіць пытаньне аб рабоце сярод батрацтва і беднаты. Па дырэктыве ЦК КП(б)Б Райкомы павінны былі забясьпечыць правядзеньне пры с/с нарад батрацка-бядняцкіх груп. На гэтых нарадах неабходна падрабязна распрацаваць пытаньне аб задачах хлебазагатовак і ў формах практычнага ўдзелу батрацка-бядняцкіх груп у правядзеньні хлебазагатовак.

Паведамленьні з месц сьведчаць аб тым, што многія арганізацыі на разгортваньне работы з батрацтвам і беднатой не зьвярнулі належнай увагі. Нарады батрацка-бядняцкіх груп не праведзены, і, у, выніку адсутнасьці да гэтай справы ўвагі, батрацтва і бедната ў хлебазагатоўках удзельнічаюць слаба. Па такой, па сутнасьці праваапартуністычнай, недаацэнцы работы сярод батрацтва і беднаты трэба біць з усёй бальшавіцкай рашучасьцю. Зараз, на ходу хлебазагатовак трэба хутка ліквідаваць такія важнейшыя ўпушчэньні.

У партыйных арганізацыях ужо ёсьць вялікі вопыт работы сярод беднаты. Пры падрыхтоўцы важнейшых гаспадарча-палітычных кампаній мы заўсёды праводзім спэцыяльную работу сярод беднаты. Спэцыяльныя нарады з беднатой праводзіліся перад уборачнай кампаніяй. Аднак, многія Райкомы такія нарады бліскуча правальвалі. У чым была прычына? Бедната на нарады не зьяўлялася. Як відаць, Райкомы фармальна аднесьліся да скліканьня нарад. Паведамлялі аб тэрміне нарады і на гэтым спыніліся.

Карыстаючыся выпадкам, раскажам аб вопыце Магілеўскага РК у гэтай рабоце. Магілеўскія таварышы перад склікань-нем раённай нарады батрацка-бядняцкіх груп арганізоўвалі брыгады, пасылалі іх у с/с для таго, каб там правесьці папярэдне падрыхтоўчую работу да раённай нарады. Брыгадзіры на месцы праводзілі гутаркі з беднатой па пытаньнях, якія падлягалі абгаварэньню на раённай нарадзе, і потым разам з вылучанымі членамі бядняцкіх груп зьяўляліся на нараду.

Вопыт магілеўскага РК трэба скарыстаць і астатнім Райкомам для прымяненьня ў сваёй практычнай рабоце.

Акрамя работы з беднатой, павінна быць праведзена асобная работа з жанчынамі. Па дырэктыве ЦК праводзяцца спэцыяльныя нарады жаночага актыву, дзе таксама ставяцца пытаньні хлебазагатовак. Пры ўмела пастаўленай рабоце можна дабіцца значнага ўдзелу ў хлебазагатоўках з боку дэлегацкіх сходаў. Для актывізацыі дэлегацкіх сходаў па ўдзелу ў хлебазагатоўках трэба шырока скарыстаць праходзячую зараз перавыбарчую кампанію.

Пачэснае месца ў пасьпяховым правядзеньні хлебазагатовак належыць нашаму друку. Звычайна лічаць, што газэта, якая *больш* піша аб хлебазагатоўках, тым самым лепш выконвае свае задачы ў гэтай галіне.

Справа, зразумела, ня ў колькасьці падаваемых радкоў, а ў *якасьці*. Лепш падаць менш матар'ялу, але затое даць матар'ял такі, які бязьлітасна падганяў бы тых, хто адстае ў правядзеньні кампаніі, паказваў бы на канкрэтныя асобы, якія тармозяць справу, і папулярызаваў бы людзей, калгасы і саўгасы, якія даюць узоры добрай работы. Канкрэтна, папулярызаваць перадавыя вёскі, калгасы, асобных сялян, што сваячасова выканалі заданьне па хлебазагатоўках.

Нам думаецца, што ў гэтай справе недахопы заўважаюцца наступныя (яны між іншым характэрны ня толькі для хлебазагатоўчай кампаніі, але і для другіх). *Папершае*—гэта нядобраякаснасьць матар'ялу: колькасьць ня злучаецца з якасьцю. *Па-другое*—зусім мала паказваюцца «канкрэтныя носьбіты зла», г. зн. тыя, што сваёй неахайнасьцю, непаваротлівасьцю, галавацяпствам, а то і сьвядомым шкодніцтвам тармозяць справу. У значна большай меры лягчэй выправіць недахоп, калі вядома, хто садзейнічае гэтаму недахопу. І *па-трэцяе*—недастаткова папулярызуюцца ўзоры сапраўды бальшавіцкай работы.

Такім чынам неабходна ў далейшым друку паставіць сваю работу па баявому. Даваць матар'ял больш высокаякасны і больш канкрэтна выстаўляць недахопы кампаніі і выкрываць «аўтараў» недахопаў. Узорам баявой работы па выканань-ню важнейшых чарговых задач могуць зьявіцца апэратыўныя зводкі «Праўды».

Па ўсіх зьвестках слабы ўдзел у правядзеньні хлебазагатоўчай кампаніі прымаюць насьценгазэты. Недаацэньваць іх значэньня было-б памылковым. Нашым цэнтральным і раённым газэтам варта-б было прыйсьці на дапамогу насьценным газэтам, каб актывізаваць іх удзел у хлебазагатоўчай кампаніі.

Слаба пастаўлена справа з выданьнем масавай літаратуры па пытаньнях хлебазагатовак. Да гэтага трэба аднесьці, як важнейшы недахоп, неабслугоўваньне хлебаздатчыкаў на ссыпных пунктах. Па ўсіх гэтых пытаньнях былі адпаведныя дырэктывы ЦК, але справа амаль не кранулася з месца. Тое, што можна зрабіць зараз, неабходна абавязкова зрабіць.

ЦК УсеКП(б) і КП(б)Б у сваіх пастановах адзначалі, што асноўным мэтадам у правядзеньні хлебазагатоўчай кампаніі зьяўляецца мэтад сацыялістычнага спаборніцтва. Між тым сацыялістычнае спаборніцтва разгорнута зусім недастаткова альбо пры наяўнасьці саблюдзеньня ўсіх фармальных даных (заключэньне ўмоў, дэкляратыўныя прамовы) не дае належных вынікаў. Словы і абяцаньні застаюцца на паперы, а справа пасоўваецца наперад надзвычайна маруднымі тэмпамі.

Агітацыйна-масавую работу вакол сацыялістычнага спаборніцтва трэба пабудаваць так, каб сацспаборніцтва ахоплівала большыя масы і праводзілася пры

іх актыўным удзеле, праходзіла найбольш жыва і арганізавана. Сацспаборніцтва павінна рашуча біць па ўсялякіх шкодных настроях, супроцьпастаўляць гэтым настроям найбольш здаровыя, вытрыманыя настроі, цэмэнтаваць калгасы, што спаборнічаюць паміж сабою.

Маленькі вынік. Важнасьць хлебазагатоўчай кампаніі патрабуе перабудовы ўсёй агітацыйна-масавай работы і падначальваньня ўсіх форм і зьместу яе пасьпяховаму правядзеньню кампаніі. Кожнае карыснае і новае пачынаньне ў агітмасавай рабоце трэба шырока папулярызаваць, максымальна садзейнічаць таму, каб гэта пачынаньне станавілася ўласнасьцю як мага большай колькасьці нашых арганізацый. Райкомы КП(б)Б павінны ў большай меры займацца пытаньнямі масавай работы і забясьпечыць сваё цьвёрдае кіраўніцтва яе перабудовай.

С. М. Дрылёнак

# Ваенная работа ячэек

«...зьезд з усёй рашучасьцю паказвае на неабходнасьць сасрэдатачэньня партыі і яшчэ большай мабілізацыі ўсіх сіл рабочае клясы і бядняцка-серадняцкіх мас сялянства на замацаваньне абароназдольнасьці СССР, моцы і баяздольнасьці Чырвонай арміі, марскога і паветранага флёту».

(З рэзалюцыі XVI зьезду ЎсеКП(б) па дакладу тав. Сталіна)

Для ўсяе грамадзкасьці Савецкага Саюзу зусім ясна, што ваенная небясьпека набліжаецца, што падрыхтоўка імпэрыялістых да нападу на СССР ідзе шпаркім тэмпам. Аб гэтым сьведчыць апрацоўка грамадзкае думкі на карысьць неабходнасьці новай інтэрвэнцыі супроць СССР (Куцепаўшчына, выступленьне папы рымскага, газэтная лаянка, парляманцкія запыты і г. д.).

Натуральна, што буржуазны мір будзе рабіць спробы станавіцца на нашым шляху і будзе імкнуцца ўзброенай рукой задавіць краіну рабочых і сялян, каб толькі адцягнуць гадзіну свае сьмерці. Толькі сьляпы ня можа бачыць гэтага, толькі ён можа сьцьвярджаць, што «на Шыпцы ўсё спакойна».

Перад партыйнай арганізацыяй цалкам і кожным партыйцам паасобку стаіць вялічэзная задача—завастрыць увагу ўсяе грамадзкасьці вакол пытаньняў абароны, вакол пытаньняў ваеннай небясьпекі. Зразумела, што пытаньні абароны краіны не складаюцца толькі з таго, што мы будзем добра клапаціцца аб становішчы Чырвонай арміі ў сучасны момант. Гэта справа добрая, але гэта зьяўляецца толькі адным з цэлага шэрагу пытаньняў узмацненьня абароназдольнасьці краіны. Неабходна кожнаму ведаць, што хутчэйшая індустрыялізацыя краіны, сацыялістычная рэканструкцыя сельскае гаспадаркі, падняцьце культурнага ўзроўню ўсіх працоўных мас нашае краіны зьяўляюцца галоўнымі задачамі ня толькі ў мірным разьвіцьці сацыялістычнай дзяржавы, але і ў пытаньнях абароны яе.

Вось таму ўзмацненьне прамысловасьці, ператварэньне сельскай раздробленай гаспадаркі ў буйныя калгасы, падымаючы культурны ўзровень працоўных, садзейнічае і абароне нашае краіны. Усё гэта робіцца пад кіраўніцтвам Камуністычнае партыі, і таму ячэйка ў пытаньнях абароны і практычнай вайсковай падрыхтоўкі таксама павінна зьявіцца кіраўніком і арганізатарам правядзеньня гэтай працы тымі арганізацыямі, якія займаюцца гэтай справай, гэта значыць т-вам садзейніч. абароне і авіацыйнаму і хэмічнаму будаўніцтву СССР—«Асоавіахімам».

Гэтым артыкулам мы хочам даць практычныя паказаньні, як павінна весьціся ваенная работа ў парт'ячэйцы, бо трэба адзначыць, што ў многіх ячэйках ваенная работа ў заняпадзе, і ёю цікавяцца толькі тады, калі атрымліваецца заданьне вышэйшай партыйнай арганізацыі. Мы ведаем такія ячэйкі і нават райкомы партыі, якія ня ведаюць нават, хто павінен весьці ваенную работу, не гаворачы ўжо аб кіраўніцтве ў цэлым ваеннай работай ячэйкі Асоавіяхіму (Буйнавіцкая ячэйка — Мазыршчына). Дрэнна гэта справа абстаіць у вясковых ячэйках, асабліва на Мазыршчыне.

Трэба павесьці рашучую барацьбу з індыфэрэнтнасьцю да ваеннай работы партыйных ячэек і нават райкомаў. Мы ўжо сказалі, што практычнае правядзеньне ваеннай работы павінна быць

ускладзена на ячэйку Асоавіяхіму пад штодзённым кіраўніцтвам партячэйкі, для чаго партячэйка павінна ня толькі час ад часу заслухоўваць даклады асоавіяхімаўскай ячэйкі і даваць напрамак у рабоце, а праз ваеннага арганізатара партячэйкі штодзённа кіраваць гэтай работай. Пажадана, каб сакратар бюро асоавіяхімаўскай ячэйкі зьяўляўся і ваеннаарганізатарам партячэйкі. Ваеннаарганізатар партячэйкі павінен там, дзе яшчэ няма асоавіяхімаўскай ячэйкі, арганізаваць яе, уцягнуць туды ўсіх камсамольцаў дадзенага пункту і разгарнуць працу. У першую чаргу практычная ваенная работа павінна ахапіць ўсіх партыйцаў і камсамольцаў. На жаль, мы гэтым ня можам пахваліцца, і асабліва дрэнна абстаіць справа з камсамольцамі, якія зьяўляюцца ваенна няпісьменнымі і ваеннай справай цікавяцца зусім слаба, ня гледзячы на яскравую пастанову па гэтаму пытаньню VI пленуму ЦК УЛКСМ.

У асноўным перад ячэйкай Асоавіяхіму партячэйка ставіць задачы:

Растлумачэньне шырокім масам працоўных задач садзейнічаньня абароне і замацаваньню баявой моцы РСЧА, марскога і паветранага флёту, выхаваньня ў працоўных сьвядомасьці міжнароднай пралетарскай салідарнасьці і высокай якасьці, стойкасьці байца за пралетарскую рэвалюцыю.

Растлумачэньне шырокім масам працоўных сучаснага міжнароднага становішча, ваеннай небясьпекі, важнасьці хутчэйшага падняцьця цяжкай прамысловасьці, перабудовы на сацыялістычны лад сельскай гаспадаркі, падняцьця культурнага ўзроўню працоўных, увязваючы гэта з пытаньнямі абароны сацыялістычн. краіны.

Садзейнічаньне ўсебаковаму замацаваньню баявой і тэхнічнай моцы Чырвонай арміі.

Практычнае правядзеньне ваеннай падрыхтоўкі працоўных па розных спэцыяльнасьцях вайсковай справы.

Садзейнічаньне і ўдзел у разьвіцьці ваеннай і грамадзянскай авіацыі і паветраплаваньня, мабілізацыя грамадзкай думкі вакол гэтых пытаньняў, арганізацыя і прапаганда паветранага спорту.

Садзейнічаньне і правядзеньне масавага навучаньня працоўных у справе абароны ад паветрана-хэмічнага нападу, а таксама і ліквідацыі агульнай хэмічнай няпісьменнасьці сярод працоўных.

Садзейнічаньне ажыцьцяўленьню сацыялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі, прапаганда хэміі як у прамысловасьці, так і ў сельскай гаспадарцы; унядрэньне мінэральных угнаеньняў, скарыстаньне торпу ў сельскай гаспадарцы і наогул карысьць яго ў народнай гаспадарцы.

Добраахвотнае ўцягненьне працоўных у шэрагі Асоавіяхіму і ўцягненьне іх у актыўную працу па ажыцьцяўленьню задач т-ва шляхам арганізацыі розных практычных гурткоў, груп, брыгад, навучальна-страявых адзінак, каманд і г. д., працуючых пад кіраўніцтвам вышэйстаячых арганізацый.

Уключэньне ўсяе гэтай работы, асабліва ваенізацыі, форм культасьветнай работы, спартыўнай у работу клюбаў, хат-чытальнень, дамоў Асьветы, культуры і г. д.

Накапленьне кадраў актыву т-ва для большага разгортваньня практычнай работы.

Падрыхтоўка кадраў для абароны краіны і сацыялістычнага будаўніцтва.

Садзейнічаньне партячэйцы і камсамолу ў справе палітычнага выхаваньня працоўных для перадачы ў партыю і камсамол.

Збор сродкаў і самаахвяраваньняў, рэалізацыя лётарэй, пазык як сярод членаў ячэйкі, так і наогул сярод працоўных для разьвіцьця работы т-ва і ўзмацненьня абароны нашае краіны.

Правядзеньне ўсіх гэтых задач павінна ісьці на базе самакрытыкі і шырокага ўжываньня сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва.

Такім чынам, з усяго вышэйпаказанага мы павінны зрабіць наступныя вынікі:

а) тая партыйная ячэйка, якая ня цікавіцца ваеннай работай, тым самым ня выконвае пастановы XVI зьезду ЎсеКП(б) па ўзмацненьню абароны краіны;

б) партячэйка павінна замацаваць кіраўніцтва ячэйкі Асоавіяхіму здольнымі, дзейнымі працаўнікамі і кіраваць работай ячэйкі, і не тады, калі ўбачыць, што справа ваеннай работы дрэнна, а штодзённа, паставіўшы аднолькавую работу ў аднолькавай ступені з усёй другой важнай партыйнай і савецкай работай;

в) партячэйка павінна сачыць, каб камсамол сапраўдна ўдзельнічаў у працы і кіраўніцтве ячэйкай Асоавіяхіму і актыўна прыймаў удзел у практычнай рабоце па ваенізацыі.

Толькі пры такіх умовах можна быць упэўненым, што ваенная работа будзе сапраўды пастаўлена на належную вышыню, і гэтым самым ячэйка выканае дырэктывы XIII зьезду КП(б)Б і XVI зьезду ЎсеКП(б).

# ДА ЛІКВІДАЦЫІ АКРУГ

П. Равінскі

## Асноўныя задачы гарадзкіх і раённых КК-РСІ

«...ліквідацыя акруг і ўзмацненьне раёнаў, як асноўнага зьвяна сацыялістычнага будаўніцтва ў вёсцы,... павінна прывесьці да рашучага набліжэньня партыйна-савецкага апарату да сяла, да калгасу, да мас».

(З паст. XVI зьезду ЎсеКП(б) па справазд. ЦК).

Акруговыя цэнтры, выкліканыя да жыцьця ў рэканструкцыйны пэрыяд, як палітычныя і эканамічныя апорныя пункты ў справе аднаўленьня і больш пасьпяховага разьвіцьця нашае гаспадаркі, у асноўным з пастаўленымі задачамі справіліся.

Зараз перад нашай партыяй паўсталі новыя задачы. Дабіўшыся значных посьпехаў у росьце сацыялістычнай прамысловасьці, пры створаных прамысловасьцю матар'яльных умовах і пры наліччы адпаведных сацыялістычных прадпасылак у вёсцы, наша партыя блізка падыйшла да правядзеньня сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі. Абапіраючыся на батрацка-бядняцкія масы і пры падтрыманьні серадняцкіх мас у вёсцы, узят рашучы курс на правядзеньне суцэльнай калектывізацыі і на ліквідацыю кулацтва як клясы на гэтай аснове.

Гэтыя новыя задачы выклікаюць неабходнасьць перабудовы ўсёй нашай савецкай і партыйнай масавай работы, замацаваньня раённых цэнтраў, каб больш пасьпяхова справіцца з пастаўленымі задачамі на сяле.

Не паслабляючы, а больш узмацняючы ўвагу развіцьцю сац. прамысловасьці—гэтай асноўнай базы сац. рэканструкцыі сельскае гаспадаркі,—у той жа час неабходна зараз жа заняцца пашырэньнем і ўмацаваньнем нашага саўгаснага і калгаснага будаўніцтва, правядзеньнем масавай работы па больш пасьпяховаму вытворчаму каапэраваньню бядняцкіх і серадняцкіх гаспадарак, якія яшчэ засталіся па-за калгасамі.

Праводзячы работу па далейшаму росту сацыялістычнага сэктару сельскай гаспадаркі, ня трэба забываць і індывідуальныя бядняцка-серадняцкія гаспадаркі, усямерна набліжаючы іх да калгаснай працы і падвышэньня сель.-гасп. вытворчасьці.

З гэтых асноўных задач і вынікае далейшая савецкая і партыйна-масавая работа на сяле, набліжэньне да мас савецка-партыйнага апарату, умацаваньне месц лепшымі кадрамі работнікаў, стварэньне моцнага партыйнага ядра—перш за ўсё ў калгасе і саўгасе—гэтых апорных пунктах на сяле, уцягваючы лепшых рабочых прамысловых прадпрыемстваў, саўгасаў, батракоў, калгасьнікаў і індывідуальнікаў—беднякоў і серадняkoў. Наогул вакол сацыялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі неабходна мабілізаваць парт. арганізацыю, абкружыць яе лепшымі масамі пралетарыяту і працоўнага сялянства. Ад гэтага будуць залежаць пасьпяховасьць работы, колькасныя і якасныя паказальнікі ў раёне.

Раённы цэнтр зьявіцца тым апорным культурным і палітычным цэнтрам на сяле, тым кіруючым і выканаўчым органам па ажыцьцяўленьню галоўнейшай задачы партыі ў сучасны момант. Адсюль вынікае неабходнасьць усямернага ўмацаваньня раёну і стварэньне ў ім усіх апэрацыйных органаў, каб была ахоплена і праводзілася ўся гаспадарчая і культурна-масавая работа па лепшаму абслугоўваньню насельніцтва ў раёне.

Адным з такіх органаў у раёне зьявіцца *кантрольная камісія—рабоча-сялянская інспэкцыя.* Важнасьць і значэньне гэтых органаў у раёнах у справе пасьпя-

ховага ажыцьцяўленьня стаячых задач відавочна, казаць аб гэтым шмат ня прыходзіцца.

Арганізацыя органаў КК-РСІ ў раёне, бязумоўна, будзе мець вялікае значэньне для большай пасьпяховасьці праводзімай работы і дасьць магчымасьць забясьпечыць больш пасьпяховае выкананьне стаячых перад партыяй задач у кожным паасобным раёне .

Органы КК-РСІ ў раёне павінны будуць, перш за ўсё, паставіць перад сабой задачу—забясьпечаньне пасьпяховасьці работы па сацыялістычнай перабудове нашае сельскае гаспадаркі, гэтай важнейшай задачы ў сучасны момант работы на сяле; забясьпечыць масавасьць гэтай работы, папярэдзіць магчымыя памылкі і скажэньні ва ўсёй рабоце ў раёне па выкананьню рашэньняў і дырэктыў партыі і ўраду і асабліва рашэньняў XVI зьезду ЎсеКП(б) і XIII зьезду КП(б)Б і ва ўсёй гэтай рабоце забясьпечыць прыцягненьне шырокіх пралетарскіх і працоўных сялянскіх мас.

Барацьба з бюракратычнымі скажэньнямі, коснасьцю ў рабоце раённых і сельскіх органаў патрабуе арганізацыі вакол органаў КК-РСІ актыву з партыйцаў, камсамольцаў, дэлегатак і лепшых беспартыйных рабочых прамысловых прадпрыемстваў, саўгасаў, калгасаў, батракоў, калгасьнікаў, беднякоў і серадняцкіх колаў для масавага кантролю савецкай, гаспадарчай, каапэрацыйнай, партыйна-масавай, сацыяльна-культурнай і г. д. работы.

Ва ўсёй рабоце павінна быць забясьпечана бальшавіцкая самакрытыка, накіроўваючы яе на важнейшыя і паасобныя вучасткі работы ў раёне; забясьпечаньне самакрытыкі, ня гледзячы на асобы; шырока паставіць справу па арганізацыі камісій садзейнічаньня па прадпрыемствах, саўгасах, калгасах, сэкцыі РСІ пры сельскіх і гарадзкіх саветах; забясьпечыць крытыку ў друку, а таксама сваячасовае і поўнае рэагаваньне на іх.

Неабходна таксама заняцца пытаньнямі шэфства рабочых прадпрыемстваў над сав. органамі, калгасамі і сельсветамі, перанесьці цэнтр цяжару гэтай работы з акругі ў раён, на сяло, каб рабочыя прамысловых прадпрыемстваў сапраўды садзейнічалі рабоце на сяле па сацыялістычнай перабудове сельскай гаспадаркі і забясьпечылі дакладнасьць і правільнасьць работы раённых і сельскіх органаў, мелі ўплыў і кантралявалі гэту работу.

Вось тыя асноўныя задачы, якія стаяць перад органамі КК-РСІ ў раёне.

Датыкаючыся больш практычнага боку работы КК-РСІ ў раёне, неабходна будзе заняцца праверкай і аказаньнем садзейнічаньня па выкананьні прамфінпляну на прамысловых прадпрыемствах, забясьпечыць сваячасовую прапрацоўку і зацьверджаньне прамфінпляну на будучы апэрацыйны год, забясьпечыць пасьпяховую работу па ўборцы ўраджаю, падрыхтоўцы і правільнаму правядзеньню асеньняй пасеўнай кампаніі, забясьпечыць хлебныя, мясныя і сыравінныя загатоўкі ў раёне; праверку новага і капітальнага будаўніцтва ў раёне, рамонт школ і пачатак школьных заняткаў; праверку і наладжаньне работы сэкцыі РСІ пры гарадзкіх і сельскіх саветах; падбіраць актыў для КК-РСІ па ажыцьцяўленьню налётаў лёгкай кавалерыі, асабліва з рабкораў і ўдарнікаў і г. д.

Ва ўсёй рабоце КК-РСІ неабходна захоўваць клясавы прынцып і сацыялістычны сэктар, заўсёды вылучаючы важнейшыя вучасткі работы, ад якіх будзе залежаць палепшаньне і ўсёй астатняй работы.

Галоўная ўвага ў рабоце КК-РСІ ў раёне павінна быць зьвернута сваячасоваму папярэджаньню, сваячасоваму выпраўленьню і недапушчэньню памылак ці хваравітых зьявішчаў у рабоце таго ці іншага апарату. Трэба проста сказаць, што тая РайКК-РСІ, якая будзе толькі лавіць і выкрываць, а не наладжваць работы і папярэджваць сваячасова хваравітыя зьявішчы, ня прымаць сваячасова захадаў па зьнішчэньні апошніх, тая КК-РСІ дрэнна будзе спраўляцца са сваёй работай.

Работа КК-РСІ зьяўляецца, перш за ўсё, работай масавай. Пасьпяховасьць работы КК-РСІ цалкам будзе залежаць ад удзелу шырокіх мас у яе працы, ад

абкружэньня неабходным актывам, забясьпечаньня давер'я шырокіх мас да органаў КК-РСІ ў раёне.

Гэтага магчыма дасягнуць толькі апорай на масу, шырокім кантролем праз масу, правільнай работай па сваячасоваму папярэджаньню паасобных недахопаў работы, бязьлітаснай барацьбой з бюракратызмам, цяганінай, коснасьцю, шырокай справаздачнасьцю аб сваёй рабоце, а таксама абгаварэньнем плянавай работы КК-РСІ.

У галіне партработы перад КК-РСІ стаяць задачы, перш за ўсё, мабілізацыі арганізацыі ў раёне вакол Ленінскай лініі партыі, за бальшавіцкае правядзеньне рашэньняў XVI зьезду ЎсеКП(б), барацьбы з правым ухілам у тэорыі і на практыцы і левымі загібамі, барацьбы з паказанымі ўхіламі і непартыйнымі паступкамі, забясьпечаньня ў партыйным жыцьці і рабоце разьвіцьця самакрытыкі і ўнутрыпартыйнай дэмакратыі.

Выходзячы з гэтых агульных і прыватных задач, неабходна ў рабоце КК-РСІ дабівацца плянавасьці, складаньня пляну работ, раней хаця-б на месяц, а затым на 3 м-цы і г. д., складаючы плян работ у выглядзе каляндарнага пляну з апісаньнем, што і калі павінна быць зроблена, на каго тая ці іншая работа ўскладзена для выкананьня. Органы КК-РСІ ў раёне павінны будуць патрабаваць дакладнасьці і яснасьці ў рабоце кожнай установы. Тым больш у саміх КК-РСІ гэта дакладнасьць і яснасьць павінна быць пастаўлена ўзорна.

У сувязі з гэтымі вялізарнымі задачамі, стаячымі перад КК-РСІ ў раёне, пытаньне аб работніках КК-РСІ ёсьць асноўнае пытаньне. Для таго, каб кантраляваць, выпраўляць і накіроўваць работу іншых ведамстваў, неабходна быць самому дастаткова сьвядомым. Для таго, каб разьбіраць партыйныя справы, трэба быць дастаткова аўтарытэтным сярод партарганізацыі. Адсюль на кантрольную работу павінны быць вылучаны лепшыя партыйцы, з дастатковым партстажам, з вопытам у партыйна-масавай працы. Адсюль і прад'яўляюцца патрабаваньні ня менш 5-гадовага партстажу для РайКК-РСІ і 7-гадовага для Гар. КК-РСІ, і што старшыня і ўпаўнаважаныя КК-РСІ павінны быць ня менш вопытныя і моцныя работнікі, як сакратары РК і Гаркомаў.

Пытаньне аб старых работніках—інспэктарох зьяўляецца ня менш важным. Ні ў якім выпадку нельга на падбор інспэктароў глядзець, як на тэхнічных работнікаў. Гэта павінны быць такія-ж адказныя і аўтарытэтныя работнікі, якія павінны і разглядаць і правяраць работу партыйных, савецкіх і масавых органаў. Адсюль, як правіла, неабходна падбіраць дастаткова моцных, маючых усебаковы вопыт работы, і пажадана, каб яны былі членамі кантрольных камісій, калі яны падыходзяць дзеля гэтага і будуць абраны.

Як правіла, органы КК павінны быць абраны на партканфэрэнцыях. Норма членаў КК устанаўляецца па раёнах: з 200 членаў партыі—ад 5 да 7 членаў, з 200 да 500 членаў партыі—ад 9 да 11 і звыш 500 членаў партыі—ад 11 да 15 членаў.

Партстаж членаў КК устанаўляецца ня менш 5-ці год. Выключэньне дапускаецца для рабочых ад варштату і сялян ад сахі—да 3-х год, але ўсякі раз з зацьверджаньнем ЦКК.

Паколькі на першы раз ня ўсюды будзе магчымасьць правесці партканфэрэнцыі і абраць КК, то да выбараў ва ўсе раёны вылучаюцца ўпаўнаважаныя ЦКК-НКРСІ, на якіх будзе ўскладзена задача—падбіраць неабходных работнікаў і праводзіць усю работу па лініі РСІ ў раёнах; па партлініі падрыхтоўваць і прадстаўляць на рашэньне райкомаў усе партпытаньні, якія датыкаюцца работы кантрольных камісій, а таксама весьці падрыхтоўчую работу да партканфэрэнцыі па выбарах кантрольных камісій.

Абраныя кантрольныя камісіі павінны будуць вылучыць з свайго асяродзьдзя парттройкі (на правох парткалегіі) для вырашэньня бягучых спраў і падрыхтоўкі спраў для пленуму кантрольных камісій, якія павінны зьбірацца ня менш аднаго разу ў месяц.

Пытаньні па сав. лініі, г. зн. Р СІ, будуць вырашацца ці ўпаўнаважаным РСІ,

ці будуць створаны прэзыдыумы. Гэтае пытаньне яшчэ не атрымала свайго вырашэньня.

У заключэньне неабходна адзначыць адну з даволі істотных задач, якая стаіць перад раённымі арганізацыямі ў цэлым і перад КК-РСІ ў прыватнасьці. Гэта задача—правільнае і ўсебаковае вывучэньне данага раёну, яго эканамічных і інш. спэцыфічных асаблівасьцяй. Каб правільна весьці работу ў раёне, трэба дадаткова поўна і дакладна ведаць усе ўмовы і вагу асаблівасьцяй раёну. Правільная пастаноўка работы кантролю і праверкі магчыма пры дастатковым вучоце ўсіх гэтых фактаў і ўмоў у раёне.

Акрамя таго, калі для работы саміх раённых арганізацый неабходна мець усе даныя аб раёне, то ня ў меншай меры гэтыя даныя патрэбны цэнтральным органам. Кіраўніцтва з боку цэнтральных органаў ня можа быць агульным і для ўсіх аднолькавым. Кіраўніцтва раёнамі павінна быць канкрэтным, з вучотам усіх эканамічных і інш. спэцыфічных умоў і фактараў у раёне. Гэтым пытаньнем камусьці патрэбна заняцца зараз жа, каб гэтыя весткі былі апрацаваны і надрукаваны, што дасьць магчымасьць палепшыць кіраўніцтва, упарадкаваць работу і зьнішчыць саматужніцтва.

Другое пытаньне—гэта тое, што ЦКК-НКРСІ свайго друкаванага органу ня мае. Работа КК-РСІ мае вялізарнейшае значаньне ва ўсёй партыйнай, савецкай і масавай рабоце. Адсюль неабходнасьць на старонках друку шырока ставіць шэраг пытаньняў, якія маюць агульнапартыйнае, гаспадарчае і палітычнае значэньне, асьвятляць работу КК-РСІ ў гэтых пытаньнях і асабліва работу нізавых органаў.

Ствараемыя КК-РСІ ў гарадох і раёнах павінны ўзяць за правіла—зьмяшчаць у друку артыкулы па ўсіх важнейшых пытаньнях работы, скарыстоўваючы дзеля гэтага як мясцовы, так і цэнтральны друк і асабліва «Лісткі РСІ» у газ «Зьвязда».

Неабходна таксама і ў «Партработніку» дастаткова поўна асьвятляць партжыцьцё, практыку работы ў раёне, пасобныя зьявішчы, скажэньні партлініі і барацьбу з імі, пытаньні самакрытыкі, унутрыпартыйнай дэмакратыі і самую работу кантрольных камісій.

# ЗА ЛЕНІНСКУЮ ЛІНІЮ Ў НАЦПЫТАНЬНІ

**А. Некрашэвіч**

## XVI зьезд УсеКП(б) аб нацыянальным пытаньні

У абсягу часу паміж XV і XVI зьездамі наша партыя дасягнула надзвычайна вялікіх посьпехаў у справе разгорнутага сацыялістычнага наступленьня і будоўлі сацыялізму ў савецкай краіне. Гэты абсяг часу ахарактарызаваны т. Сталіным на XVI зьезьдзе наступным чынам:

«Асноўная ўстаноўка партыі састаіць у пераходзе ад наступленьня сацыялізму на паасобных вучастках гаспадарчага фронту—па ўсяму фронту: і ў галіне прамысловасьці і ў галіне сельскае гаспадаркі». І далей: «XVI зьезд ёсьць зьезд *разгорнутага наступленьня* сацыялізму па ўсяму фронту, ліквідацыі кулацтва як клясы і правядзеньня ў жыцьцё суцэльнае калектывізацыі» (Сталін).

Разам з гэтым партыя прышла да XVI зьезду з надзвычайна вялікімі посьпехамі ў правядзеньні ленінскае нацыянальнае палітыкі, палітыкі, якая рашуча і ўпарта праводзілася партыяй на абсягу ўсяго часу. Досыць толькі прывесьці некалькі фактаў, каб пабачыць, наколькі гэтыя дасягненьні вялікія. Возьмем, да прыкладу, БССР. Капітальныя ўкладаньні ў прамысловасьць складалі ў 1926-27 г. 10,8 млн. руб., у 1927-28 г.—16,3 млн. руб. толькі па прамысловасьці ВСНГ, у 1928-29 г.—34,9 млн. і ў 1930 г.—72,8 млн. руб. На аснове гэтых укладаньняў, якія можна было зрабіць пры дапамозе ўсяго СССР, вырасьлі такія буйныя прадпрыемствы, як Асінбуд, Гомельскі машынабудоўчы завод, Бабруйскі камбінат, фабрыка штучнага шоўку і інш. Памеры гэтых капітальных укладаньняў забясьпечваюць сабою і вырашэньне асноўнай задачы ў нацыянальнай палітыцы—падцягваньне эканамічнага ўзроўню раней прыгнечаных адсталых нацыянальнасьцяй да ўзроўню найболей перадавых. Так, калі прырост прадукцыі цэнзавае прамысловасьці па ўсяму Саюзу за пэрыод 1924-25—1928-29 г. г. складаў 26%, дык у БССР у той жа час—32 проц.; па Саюзу на 1929-30 г.—32 проц., па БССР —76,5 проц. Побач з гэтым ішоў і рост рабочае клясы, што відаць з наступных даных:

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 кастрычніка | 1925 | г. | было | рабоч. | 21,5 | тыс. | чал. |
| „ | 1926 | „ | | „ | 27,1 | „ | „ |
| „ | 1927 | „ | | „ | 28,8 | „ | „ |
| „ | 1928 | „ | | „ | 34,1 | „ | „ |
| „ | 1929 | „ | | „ | 43,8 | „ | „ |
| „ | 1930 | „ | | „ | 52,6 | „ | „ |

Такім чынам лік рабочых за гэты час вырас болей чымся ў 2 разы, ізноў-такі абганяючы тэмпы росту па ўсяму Саюзу, што відаць з таго, што калі пралетарыят СССР вырас за 1928-29 г. на 7,8 проц., а за 1929-30 г.—на 5,7 проц., дык адпаведна за гэтыя-ж гады па БССР мы маем рост на 15,2 проц. і 31,3 проц.[1]).

Такім чынам правільнае правядзеньне ленінскае нацыянальнае палітыкі забясьпечвае тэмп ператварэньня БССР у краіну індустрыяльную, зьнішчае тую галечу і нэндзу, на якую ахвяраваў яе царскі ўрад, і палітыку каторага працягвае ў Заходняй Беларусі «дэмакратычны» фашыстаўскі ўрад.

Калі ўзяць другую частку народнае гаспадаркі—сельскую гаспадарку, дык і тут, ня гледзячы на праваапартуністычную, контррэвалюцыйную дзейнасьць былога кіраўніцтва Наркамзему, упартай воляй партыі дасягнуты вялікія посьпехі. БССР мае 3.000 калгасаў, якія аб'ядналоць больш за 11% сялянскіх двароў і 14,1 проц. усяе засяўное плошчы. Гэта

[1]) Усе лічбы ўзяты з кніжкі Бэнэк і Грысевіч „Выкананьне пяцігадовага пляну прамысловасьці БССР“ - даклады на XIII зьезьдзе КП(б)Б. БДВ, 1930 г., ст. ст. 8, 14, 18.

значыць, што дзесяткі тысяч вясковага батрацтва, беднаты і серадняцтва ўцягнуты ў актыўны працэс сацыялістычнага будаўніцтва, гэта значыць, што яны *ўжо сёньня* карыстаюцца перавагамі буйнае сацыялістычнае гаспадаркі. Бальшавіцкі сеў і ўборка пераканалі новыя тысячы яшчэ некалгасьнікаў у перавазе калгаснай гаспадаркі, і мы маем новую магутную хвалю прыліву ў калгасы. Ідзе нясупынны працэс падвышэньня тэхнічнае базы сельскае гаспадаркі: на калгасных палёх ужо гудуць сотні трактараў, і растуць новыя больш рэнтабельныя культуры, як лён, каноплі і г. д.

Ленінская палітыка партыі вызваляе шматтысячныя масы бядняцка-серадняцкага сялянства ад спрадвечнага праклёну дробнай старэцкай гаспадаркі. А хіба-ж гіганцкая праца над асушкаю Мар'інскага масыву, пабудова на торфе магутных электрастанцый ня ёсьць частка ленінскае нацыянальнае палітыкі?

На базе шпаркага эканамічнага ўзросту былой каленіі царызму—«Северо-Западного края»—нячуванымі тэмпамі пайшло і культурнае разьвіцьцё. Калі нават царскую, далёкую і чужую грамату мелі толькі 11,3% беларусаў (1897 г.), дык зараз (па перапісу на 1926 г.) мы маем узрост пісьменнасьці на 37,3 проц. І кожнаму зразумела, што тут справа ня толькі ў колькасьці,—зьмянілася і якасьць: беларускае, яўрэйскае, польскае ды інш. працоўнае насельніцтва атрымлівае грамату на сваёй роднай, зразумелай мове: напрыклад, на 100 вучняў—беларусаў 90,2 вучацца на беларускай мове[1]). Пастанова партыі і ўраду аб увядзеньні ўсеагульнага абавязковага навучаньня, пастанова аб ліквідацыі няпісьменнасьці сярод асноўных мас працоўнага насельніцтва ў 1930-31 г. ёсьць самая лепшая забясьпека далейшага, яшчэ больш шпаркага росквіту нацыянальнае пралетарскае культуры. Мы ня будзем прыводзіць фактаў росту нацыянальнае вышэйшае і сярэдняе школы, нацыянальнага мастацтва, літаратуры і г. д. і г. д. Гэты рост можа наглядаць усялякі, у каго вочы не запарушаны нацыянал-дэмакратычным павуціньнем. Гэты рост прымушаны прызнаць нават нашыя ворагі. Лепшым паказчыкам нацыянальнае культуры зьяўляецца кніжная прадукцыя: на бел. мове было надрукавана: у 1926-27 г.—8.647.000 арк., у 1927-28 г.—12.867.000, у 1928-29 г.—13.009.000 арк. і намечана да надрукаваньня ў 1930-31 г. 90.000.000 арк.

Такія-ж паказчыкі мы бачылі і на іншых братніх рэспубліках. І там толькі ў выніку рашучага правядзеньня ленінскае нацыянальнае палітыкі, рашучае барацьбы за генэральную лінію партыі маглі быць пабудаваны Турксіб, Днепробуд ды інш.

Партыя бальшавікоў-ленінцаў даканала выконвае запаветы свайго правадыра і настаўніка Леніна.

## I

У выніку ажыцьцяўленьня генэральнай лініі партыі мы можам ставіць сабе такія грандыёзныя задачы, як выкананьне пяцігодкі за чатыры і нават за тры гады, і ператварыць краіну саветаў у краіну буйнай індустрыі і буйнай сацыялістычнай сельскай гаспадаркі.

Партыя дамаглася нячуваных у сьвеце посьпехаў у рашучай бязьлітаснай барацьбе са ўсімі спробамі «папраўляць» палітыку партыі, павярнуць яе ад правільнае ленінскае лініі. Гэтым змаганьнем прасякнута ўся гісторыя бальшавізму. На працягу толькі апошніх трох-чатырох год партыі прышлося разграміць контррэвалюцыйны трацкізм, разьбіць нашчэнт з усімі іх тэорыямі і тэарэтыкамі правых ухілістых. Так і ў пытаньні правядзеньня ленінскае нацыянальнае палітыкі партыя змагалася з «папраўчамі» на VIII сваім зьезьдзе па праграмнаму пытаньню, яна адбіла спробы рэвізаваць гэтую палітыку на X і XII зьездах.

XVI зьезд быў зьездам «разгорнутага наступленьня сацыялізму па ўсяму фронту, ліквідацыі кулацтва як клясы і правядзеньня ў жыцьцё суцэльнае калектывізацыі» (Сталін). Рэч вядомая, што гэтае наступленьне адбівалася і адбіваецца ва ўмовах самай абвостранай, са-

---

[1]) Даныя з кніжкі: „Национальная политика ВКП(б) в цифрах", выд. „Комм. Акад.", 1930 г., ст. ст. 273, 277, 278.

май жорсткай клясавай барацьбы. Ліквідуемыя як кляса кулацтва, нэпманы і іх ідэалёгі, буржуазныя інтэлігенты, адчуваючы свой блізкі канец, рашуча змагаліся з партыяй, знахдзячы сваіх абаронцаў нават у паасобных адзінках самае партыі і спрабуючы атакаваць партыю са ўсіх бакоў. Ня была забясьпечана ад варожае атакі і ленінская нацыянальная палітыка партыі. І ў гэтым пытаньні сёй-той пахіснуўся ў варожы бок, і нават у самой партыі сёй-той спрабаваў зрабіць наскок на палітыку яе. *Праўда, «гэтыя ўхілы ня так прыкметныя і напорыстыя, як «левы» і правы ўхіл. Іх можна было-б назваць паўзучымі ўхіламі. Але гэта яшчэ ня значыць, што іх няма. Не, яны ёсьць і, галоўнае, растуць»*[1]).

Асноўнай задачай усіх гэтых ухілаў, «паправак» зьяўлялася,—хацелі гэтага ці не хацелі іх аўтары,—паслабіць цесны брацкі саюз працоўных усіх нацыянальнасьцяй Саюзу, а праз гэта паслабіць пралетарскую дыктатуру ў вогуле. Наскокі на ленінскую нацыянальную палітыку ішлі з двух бакоў: з боку вялікадзяржаўнага шавінізму і мясцовага нацыяналізму і нацыянал-дэмакратызму.

Паглядзім спачатку, што прадстаўляе сабою вялікадзяржаўны расейскі шавінізм. Тав. Сталін у сваёй палітычнай справаздачы на XVI зьезьдзе ЎсеКП(б) так ахарактарызаваў гэты ўхіл: «*Сутнасьць ухілу да вялікадзяржаўнага шавінізму заключаецца ў імкненьні абыйсьці нацыянальныя адрозьненьні мовы, культуры, быту, у імкненьні падрыхтаваць ліквідацыю нацыянальных рэспублік і вобласьцяй; у імкненьні падарваць прынцып нацыянальнага роўнапраўя і разьвянчаць палітыку партыі па нацыяналізацыі апарату, нацыяналізацыі друку, школы і іншых дзяржаўных і грамадзкіх арганізацый*»[2]).

Лепш усяго расейскім шавіністым прыпадала павесьці атаку на ленінскую нацыянальную палітыку, сьцьвярджаючы, што нібы нацыянальнае пытаньне ўжо страціла сваю вастрату, і таму пра яго ня варта і гаварыць. Ставячы так пытаньне, ім можна было, прытупіўшы ўвагу партыі да нацыянальнага пытаньня, з большым посьпехам пачаць праводзіць сваю палітыку. Вось, напрыклад, т. Дымантштэйн піша: «*XVI зьезд павінен ліквідаваць усе шурпатасьці і недагаворанасьці, што існуюць у нацыянальным пытаньні, каб у найкарацейшы тэрмін шэрагам мерапрыемстваў нацыянальнае пытаньне было назаўсёды зьнятым і адданым у архіў*»[1]). А забясьпечыўшы такой устаноўкай сваё наступленьне і адначасова клянучыся Леніным і сваім «інтэрнацыяналізмам», хаця вучэньне Леніна не дае ім ніякіх дзеля таго падстаў, вялікадзяржаўныя шавіністыя вядуць далейшую атаку на ленінскую палітыку партыі і раскрываюць свой сапраўдны твар, недвусэнсоўна патрабуючы ліквідацыі нацыянальных рэспублік і вобласьцяй.

Некі Н. Тоўкі піша: «Як паказвае вопыт распрацоўкі 5-гадовага пляну, гэтая *фармальная самастойнасьць малых*, у асаблівасьці культурна адсталых рэспублік, зусім не магла садзейнічаць выяўленьню ўсіх мажлівасьцяй і гаспадарчага і сацыяльна-культурнага разьвіцьця... Малыя рэспублікі РСФСР апынуліся ў неканкурэнтаздольным стане з магутнымі тэрытарыяльнымі фармаваньнямі, што стаяць побач з імі. Можна прадбачыць, што ў будучыне пры ўсіх спробах цэнтру выраўняць лінію разьвіцьця гэтых малых аўтаномій гэта наўрад ці будзе магчымым»[2]).

Рэакцыйнасьць такога патрабаваньня не патрабуе доказаў і віадвочна кожнаму. Тав. Сталін даў такую ацэнку гэтым патрабаваньням. «*Патрабаваньне зьнішчэньня нацыянальных рэспублік і вобласьцяй у даны гістарычны пэрыод зьяўляецца патрабаваньнем рэакцыйным, накіраваным супроць інтарэсаў дыктатуры пралетарыяту*»[3]).

Як ужо было сказана вышэй, усе гэтыя вымаганьні вялікадзяржаўныя шаві-

---

1) Сталін—„Паліт. справазд.“, ст. 94.

2) Цыт. па арт. К. Таболава „Нац. вопрос на XVI с‘езде“, „Правда“, №№ 204 і 205.

1) Цыт. па арт. К. Таболава „Нац. вопрос на XVI с‘езде, „Правда“, №№ 204 і 205.

2) „Советское строительство“, № 40, стр. 85, цыт. па арт. К. Таболава. „Нац. вопрос на XVI с‘езде“, „Правда“, №№ 204 і 205.

3) „Паліт. справаздача“, ст. 96.

ністыя імкнуцца ўпрыгожыць шыльдаю інтэрнацыяналізму. У паасобных выступленьнях, артыкулах і г. д. імі замацоўваецца той факт, што шматлікія масы працоўных прыгнятаемых раней нацыянальнасьцяй маюць цэлы шэраг асаблівасьцяй мовы, формаў культуры, быту і г. д., што нібы партыя пераацэньвае гэтыя асаблівасьці. На гэтай падставе ігнаруюць пастановы партыі аб карэнізацыі і нацыяналізацыі апаратаў, неабходнасьць аўладаньня мовай данай нацыянальнасьці супрацоўнікамі гэтых апаратаў. У БССР гэта прыняло форму альбо актыўнага альбо т. зв. пасыўнага супраціўленьня правядзеньню беларусізацыі. Вось некаторыя факты з газэт толькі за апошні тыдзень:

«На менскай шпалернай фабрыцы беларуская мова ігнаруецца нават кіраўнікамі фабрыкі. Дырэктар фабрыкі, сакратар парткалектыву і старшыня фабзаўмясцкому *не размаўляюць па-беларуску нават тады, калі рабочыя да іх зьвяртаюцца на гэтай мове*». («Правда», № 240 (4685), 31-га жніўня 1930 г., арт. тав. Мітліна). «На будаўніцтве дома ўраду партыйная і камсамольская ячэйкі нават не рэагавалі на адкрытыя выступленьні вялікадзяржаўных шавіністых, якія спрабавалі *высьмейваць беларускую мову*» (там жа). «У ФЗУ пры заводзе імя Ланцуцкага самі выкладчыкі, на чале з загадчыкам Ключнікавым і Штаненка, зусім адкрыта супраціўляюцца ўвядзеньню беларускае мовы. Настаўніцкі пэрсанал катэгарычна адмаўляецца выкладаць вучням на беларускай мове». І рэч вядомая, што пад кіраўніцтвам такіх, так сказаць, «пэдагогаў» дзеці, праўда, далёка не пралетарскага паходжаньня, выкідваюць лёзунгі: «Далой беларускую мову»!

Рэч вядомая, што нават з гэтых прыкладаў,—а іх можна значна павялічыць,—відаць, што ўхіл у бок вялікадзяржаўнага шавінізму расьце, і ня толькі расьце, але *імкнецца павесьці атаку на пастановы XIII зьезду КП(б)Б і XVI зьезду ЎсеКП(б) па гэтаму пытаньню.*

Тут разьюшана змагаюцца з палітыкай партыі кулак, нэпман, буржуазны расейскі інтэлігент, што страціў свае ранейшыя прывілеі і манапольнае становішча ў царскім дзяржаўным апараце. І чым бы ўсе гэтыя наскокі ні прыкрываліся, адразу відаць, што, *«змагаючыся за адну агульную мову аднае дзяржавы, у межах СССР, яны дабіваюцца па сутнасьці справы аднаўленьня прывілеяў панаваўшае раней мовы, а іменна—вялікадзяржаўнае мовы»*[1]).

Яшчэ ў часе атак трацкістых на партыю павяліся атакі і на ленінскае разуменьне сутнасьці нацыянальнае культуры. Ваганян выступіў па гэтаму пытаньню нават з цэлай досыць вялікай кніжкай на гэтую тэму, у якой падмяніў усе ленінскія партыйныя ўстаноўкі блытанымі трацкісцкімі [2]).

Партыя разьбіла дашчэнту трацкізм, ускрыла яго контррэвалюцыйную сутнасьць; разьбіла яна і антыпартыйныя ўстаноўкі трацкістых у нацыянальным пытаньні і, у прыватнасьці, аб нацыянальнай культуры, абараніўшы адзіна правільную ленінскую фармулёўку: культура нацыянальная па форме і пралетарская па зьместу. З таго часу мінула больш за 3 гады. УсеКП(б) і яе частка—КП(б)Б дасягнулі надзвычайна вялікіх посьпехаў у справе росквіту нацыянальнае пралетарскае культуры. Самы росквіт яе сьведчыў, што ўстаноўка партыі тут бясспрэчная. Паміж тым да моманту XVI зьезду, як сьведчаць прыведзеныя вышэй факты, якія маюць дачыненьне ня толькі да беларускае мовы, але і беларускае пралетарскае культуры, і пасьля яго працягваюцца спробы наскокаў на нацыянальную пралетарскую культуру альбо ізноў-такі «ціхі сабатаж» яе. За прыкладамі тут таксама хадзіць далёка ня варта: у рабочых клюбах масавая праца на 73 проц. вядзецца на расейскай мове, на прадпрыемствах на 50%—на расейскай, на 27 проц.—на беларускай і на яўрэйскай—на 2,9 проц. Беларуская, яўрэйская, польская кніжка—досыць рэдкі госьць у нашых бібліатэках, яшчэ больш яна рэдкі госьць у кіёсках «Саюздруку», на вагзалах чыгунак у БССР. Ізноў гэтае становішча нельга вытлумачыць інакш, як ігнараваньнем, а іншы раз

[1]) Сталін—„Паліт. справазд"., стр. 97.

[2]) Гл. Ваганян—„О национальной культуре" ГИЗ, 1927 г.

нават і актыўным супраціўленьнем пашырэньню сярод працоўных мас нацыянальнае пралетарскае культуры.

Усё гэта і «*адмаўленьне лёзунгу нацыянальнае культуры ва ўмовах дыктатуры пралетарыяту азначае адмаўленьне неабходнасьці культурнага ўздыму невялікарускіх народаў СССР, адмаўленьне неабходнасьці агульнае абавязковае адукацыі для гэтых народаў, аддачу гэтых народаў на духоўную кабалу рэакцыйным нацыяналістым*»[1]).

Усё гэта сьведчыць пра тое, што варожыя сацыялістычнаму будаўніцтву і пралетарскай дыктатуры элемэнты і іх сьвядомыя ці несьвядомыя, вольныя ці нявольныя агенты ў бальшавіцкай партыі, вядучы атаку на ўсю палітыку партыі, не застаўляюць і такой галіны, як нацыянальнае пытаньне. Асаблівую актыўнасьць тут праяўляюць вялікадзяржаўныя шавіністыя, а таму зразумела, што партыя дала ім на сваіх зьездах самы рашучы, самы жорсткі адпор.

XIII зьезд па гэтаму пытаньню сказаў: «Працягваючы і далей бязьлітасную барацьбу з нацыянал-апартунізмам, з беларускім нацыянал-дэмакратызмам, КП(б)Б павінна адначасова зьвярнуць увагу на *барацьбу з вялікадзяржаўным расейскім шавінізмам, які актывізуецца і які зьяўляецца асноўнаю перашкодаю на шляху агуладаньня пралетарыятам працэсам будаўніцтва нацыянальнай культуры*[2]).

І далей ЎсеКП(б) на XVI сваім зьезьдзе пастанавіла:

«*Галоўную небясьпеку на даным этапе прадстаўляе вялікадзяржаўны ухіл, які імкнецца рэвізаваць асновы ленінскае нацыянальнае палітыкі і пад сьцягам інтэрнацыяналізму прыкрывае імкненьні клясаў, што аджываюць, панаваўшай раней вялікадзяржаўнай нацыі вярнуць сабе страціўшыя прывілеі*»[3]).

## II.

Адначасова і побач ішлі наскокі на ленінскую нацыянальную палітыку і з боку мясцовага нацыяналізму. Досыць успомніць тую атаку, якую павялі тут у нас беларускія нацыянал-дэмакраты і шавіністыя, і тую надзвычайна вялікую барацьбу, якую правяла ўся КП(б)Б з гэтымі наскокамі.

Тав. Сталін дае вельмі яскравую і поўную характарыстыку мясцовага нацыяналізму: Ён кажа: «*Сутнасьць ухілу мясцовага нацыяналізму заключаецца ў імкненьні адасобіцца ў рамках свае нацыянальнае шкарлупы, у імкненьні затушаваць клясавыя супярэчнасьці ўнутры свае нацыі, у імкненьні абараніцца ад вялікарускага шавінізму шляхам адыходу ад агульнага струменю сацыялістычнага будаўніцтва, у імкненьні ня бачыць таго, што зьліжае і злучае працоўныя масы нацыянальнасьцяй СССР, і бачыць толькі тое, што можа іх аддаліць адно ад аднаго. Ухіл да мясцовага нацыяналізму адбівае нездавальненьне аджываючых клясаў раней прыгнечаных нацый рэжымам дыктатуры пралетарыяту, іх імкненьні адасобіцца ў сваю нацыянальную дзяржаву і ўстанавіць там сваё клясавае панаваньне. Небясьпека гэтага ўхілу ў тым, што ён культывуе буржуазны нацыяналізм, паслабляе адзінства працоўных народаў СССР і грае на руку інтэрвэнцыяністым*»[1]).

Беларускія нацыянал-дэмакраты і нацыяналістыя, працягваючы тэндэнцыі «Нашае нівы», усімі сродкамі і сіламі імкнуліся і імкнуцца давесьці, што беларусы, як нацыя, ня маюць у сабе клясавага падзелу, што нібы беларусы нейкая асобная «сялянская рабочая нацыя», што эксплёататарамі тут былі на вёсцы выключна польскія паны, а ў горадзе яўрэйская і расейская буржуазія. Гэтым самым беларускія нацыянал-дэмакраты і шавіністыя бралі пад сваю абарону беларускага кулака, ліквідуемага пасьпяховым сацыялістычным наступленьнем, змазвалі клясавыя супярэчнасьці, супроцьставілі сябе палітыцы партыі раней па абмежаваньню, а пазьней і па поўнай ліквідацыі, на базе суцэльнай калектывізацыі, кулацтва як клясы. Гэта, папершае, Падругое, тут у поўнай меры іх задачай зьяўлялася і жаданьне выкарыстаць гістарычныя ўмовы нацыянальных узаема-

1) Сталін — „Паліт. справазд." ст. 97.
2) Рэзалюцыі XIII зьезду КП(б)Б, БДВ, 1930 г., ст. 22 (падкрэсьл. мною).
3) Резолюции и постановления XVI с'езда ВКП(б). ГИЗ, 1930 г., стр. 12.

1) Сталі — „Паліт. справаздача", ст. 100.

адносін для распальваньня нацыянальнага антаганізму паміж нацыянальнасьцямі, што насяляюць БССР, падводзячы пад гэта нібы клясавы грунт (палякі, яўрэі і расейцы—эксплёататары, беларусы—эксплёатуемыя).

Даводзіць, што беларусы падпадаюць пад агульныя законы грамадзкага разьвіцьця, што і яны маюць сваю буржуазію, якая выкарыстоўвае і нацыянальныя моманты ў сваёй барацьбе супроць пралетарскае дыктатуры, наўрад ці зьяўляецца патрэбным. Гэта відаць усякаму хаця-б і з тэй зьвярынай нянавісьці да мерапрыемстваў партыі ў справе сацыялістычнай перабудовы краіны. Беларуская буржуазія ня толькі існуе, яна змагла вылучыць сваіх ідэалёгаў і арганізатараў, якія ў барацьбе з пралетарскай дыктатурай, як сьведчаць гістарычныя факты, ня так ужо горача «любілі нацыянальны інтарэс».

Нельга ніяк прызнаць, што зварот Лёсіка да Вільгельма II, Некрашевіча альбо Грамыкі да францускага камандваньня ў Адэсе выклікаліся «нацыянальнымі інтарэсамі»: хоць з чортам, абы толькі абараніць свае клясавыя прывілеі, абараніць буржуазію і кулацтва ад жалезнае рукі пралетарскае дыктатуры.

Беларускія нацыянал-дэмакраты і шавіністыя часта нам заяўляюць, што рост беларускага шавінізму тлумачыцца *выключна* тым, што ідзе наступленьне вялікадзяржаўнага шавінізму, што такім чынам беларускія шавіністыя «нявінныя агнцы», якіх вось-вось зьесьць вялікарускі воўк. Аднак, мы ведаем, і партыя гэта ня раз абсалютна правільна адзначала, што ўсялякі абарончы шавінізм можа лёгка перарасьці ў наступальны. Гэтае перарастаньне беларускага шавінізму адбывалася на нашых вачох. Што вялікадзяржаўны расейскі шавінізм, бязумоўна, у пэўнай ступені дапамагае мясцоваму шавінізму, гэта ізноў-такі не падлягае ніякаму сумненьню, бо пры актывізацыі вялікадзяржаўнага расейскага шавінізму гэты апошні дае права мясцоваму шавінізму прыкрываць свае атакі на лінію партыі ў нацыянальным пытаньні шыльдай абароны. Але зусім зразумела, што карані мясцовага нацыяналізму захованы ня ў гэтым,—мясцовы нацыяналізм вырастае з нетраў нацыянальнай буржуазіі і кулацтва якія, як гэта паказала гісторыя, часта, нават вельмі часта, абароны сваіх клясавых інтарэсаў прыкрываюць шыльдай барацьбы за «агульнанацыянальныя» інтарэсы.

Распальваючы мясцовы нацыяналізм, нацыянальная буржуазія паслабляе агульнапралетарскі фронт, паслабляе пазыцыі пралетарыяту ў яго барацьбе і, такім чынам, узмацняе свае пазыцыі, дамагаючыся абароны далёка не «агульнанацыянальных» інтарэсаў, а менавіта—інтарэсаў свае клясы.

Што ў гэтай барацьбе супроць лініі партыі, барацьбе, іншы раз досыць удала прыкрываемай савецкімі лёзунгамі, мясцовыя шавіністыя маюць цесную ідэалёгічную і арганізацыйную сувязь з замежнымі нацыянал-фашыстымі, якія ў сваю чаргу, як гэта робяць, да прыкладу, беларускія альбо ўкраінскія нацыянал-фашыстыя, вельмі хутка дагаварваюцца па ўсіх пытаньнях з польскімі імпэрыялістымі і вядуць актыўную падрыхтоўку да нападу на СССР,—гэта ізноў-такі ясна ўсім, хто ўважліва прасочыць, да прыкладу, праграму беларускіх нацыянал-дэмакратаў (альбо ўкраінскіх) тут, у нас, і беларускіх нацыянал-фашыстых там, за кардонам[1]).

Што гэтая сувязь і падбенства зьяўляюцца ня толькі, так сказаць, ідэалёгічнага напрамку, але і чыста арганізацыйнага, яскрава сьведчыць працэс украінскіх контррэвалюцыянэраў—СВУ («Саюз Вызваленьня Украіны»).

Пра гэтую сувязь, замацаваную іншы раз пэўнай сумай польскага генэральнага штабу, сьведчаць паасобныя факты з дзейнасьці беларускіх нацыянал-дэмакратаў і шавіністых.

Тав. Сталін адзначае, што: «*Трэба мець на ўвазе тую акалічнасьць, што супрацоўленьне адпаведных клясаў нашай краіны адбываецца не ізалявана ад замежнага сьвету, але сустракае падтрымліваньне з боку капіталістычнага абкружэньня... наўкола СССР ёсьць варожыя клясавыя сілы, гатовыя падтрымаць нашых клясавых ворагаў унутры СССР і*

[1]) Гл. па гэтаму пытаньню брашуру „Бел-нац.-дэм. і бел. нац.-фашызм“.

*маральна і матар'яльна, і шляхам фінансавае блёкады, і, пры выпадку, шляхам ваеннае інтэрвэнцыі»*[1]).

Толькі гэтых прыкладаў досыць для таго, каб ускрыць контр-рэвалюцыйную дзейнасьць мясцовага нацыяналізму, які меў праявы ня толькі ў БССР. На канкрэтных жа праявах мясцовага шавінізму і нацыянал-дэмакратызму мы спыняемся каротка ня толькі з прычыны браку месца, але і таму, што гэтыя факты досыць поўна вядомы з тэй жорсткай барацьбы, якую вяла КП(б)Б з беларускім нацыянал-дэмакратызмам (Прышчэпаўшчына, практыка працы НКА, БДВ, БАН, паасобныя выступленьня і г. д.).

Вось чаму XVI зьезд УсеКП(б), канцэнтруючы ўвагу на галоўнай небясьпецы на даным этапе—вялікадзяржаўным шавінізме, разам з тым падкрэсьлівае неабходнасьць самае рашучае барацьбы і з мясцовым нацыяналізмам. У рэзалюцыі зьезду па гэтаму пытаньню сказана: «Побач з гэтым *актывізуецца ўхіл да мясцовага нацыяналізму, які паслабляе адзінства народаў СССР і грае на руку інтэрвэнцыі»*.

І так сама, як у барацьбе за агульную генэральную лінію партыі, канцэнтруючы агонь у кожны паасобны момант не на адным ухіле ад гэтай лініі (на даным этапе—правым ухіле), так і ў нацыянальным пытаньні канцэнтруючы ўвагу на барацьбе з вялікарасейскім ухілам, партыя павінна ўзмацніць барацьбу з абодвума ўхіламі ў нацыянальным пытаньні і з прымірэнцтвам да іх, а гэта вымагае ад усяе партыі, ад усіх працоўных таго, каб уважліва сачыць за ўсімі працэсамі, што адбываюцца ў нацыянальным пытаньні, дасканалага вывучэньня сутнасьці ленінскае нацыянальнае палітыкі і рашучае і ўпартае бальшавіцкае працы па рэалізацыі канкрэтных мерапрыемстваў у справе ажыцьцяўленьня гэтае палітыкі.

[1]) Сталін—„Паліт. справаздача". ст. 51

# ВОПЫТ МЕСЦАЎ

Ар. Рай

## У барацьбе за генэральную лінію партыі

*(Чэрвенская райпартарганізацыя).*

Чэрвенская райпартарганізацыя напярэдадні першай сваёй райпартарганізацыі склікаецца 14 верасьня г. г. пасьля ліквідацыі акругі.

Падагульваючы працу арганізацыі за час да апошняй канфэрэнцыі (28-29 красавіка г. г.) па выкананьню задач, выцякаючых з ажыцьцяўленьня генэральнай лініі партыі—перабудовы сельскае гаспадаркі на сацыялістычны лад і, на базе суцэльнай калектывізацыі, ліквідацыі кулацтва як клясы, трэба адзначыць, што арганізацыя за гэты пэрыод мае значныя дасягненьні.

Памылкі, якія былі дапушчаны ў справе калгаснага будаўніцтва з боку раённых і мясцовых арганізацый вясной г. г., *арганізацыяй пабальшавіцку выпраўлены*. Мы маем на сёньняшні дзень у раёне ўсяго 28 калгасаў з лікам ўзайшоўшых у калгасы 788 гаспадарак, што складае да агульнага ліку гаспадарак у раёне 12% з плошчай калектывізаванай пахаці 17%.

Увесь раён скончыў вясеньнюю сяўбу, перавысіўшы плянавыя заданьні на 0,2%. Калгасы ў вясеньнім севе ў асноўным паказалі лепшыя прыклады і ўзоры ў правядзеньні бальшавіцкага севу, у выніку чаго па калгасах мы маем значнае перавыкананьне плянаў, і, як правіла, амаль ва ўсіх калгасах ураджай на калгасных палёх лепшы чымся ў гаспадарках адзінаасобнікаў.

Арганізавана і падрыхтавана сустрэлі калгасьнікі ўраджай, але ў час уборачнай кампаніі мы маем цяжкасьці—гэта востры недахоп рабочае сілы па многіх калгасах («Новы мір», «Сталіна», «Кастрычнік», «Чырвоны партызан» і інш.), калі ў некаторых выпадках на аднаго калгасьніка прыходзіцца па 20 і болей гэктараў сенапахаці. Атмасфэрныя ападкі яшчэ больш абвастрылі гэтае становішча. Улічваючы такое становішча, працоўныя гораду прышлі на дапамогу калгасам. Было ўтворана много рабочых брыгад, якія былі кінуты на дапамогу на калгасныя палі. Больш 150 чалавек з гораду працавалі падрад 5 дзён у калгасах, пакінуўшы ва ўстановах толькі дзяжурных працаўнікоў. У асноўным па раёну на сёньняшні дзень уборачная кампанія скончана, за выключэньнем некаторых калгасаў, куды на дапамогу пасылаюцца новыя рабочыя брыгады. Ужываючы сацспаборніцтва і ўдарніцтва, пры дапамозе гораду, калгасы на справе разьбілі кулацкую хлусьню аб тым, што калгасы ня справяцца ў час уборачнай кампаніі. Праведзенае ў пераважнай большасьці калгасаў разьмеркаваньне ўраджаю дало надта добрыя вынікі—бядняк і серадняк у калгасе атрымліваюць значна больш прыбыткаў, чымся яны мелі раней у сваіх індывідуальных гаспарках. Вынікі разьмеркаваньня ўраджаю разьбіваюць таксама і кулацкую хлусьню аб «пайках» у калгасе. За апшнія часы мы маем у раёне некаторы прыліў у калгасы—уступіла новых 17 бедняцка-серадняцкіх гаспадарак і арганізаван на тэрыторыі Ляднянскага с/с новы калгас.

Разгорнутая ўжо масавая праца па ўцягненьню бядняцка-серадняцкіх мас у калгасы, на падставе ўборачнай кампаніі, правільнага разьмеркаваньня ўраджаю і праводзімага асеньняга севу, бязумоўна, дасьць хвалю новага прыліву і арганізацыі новых калгасаў. Мы павялічылі наш сацыялістычны сэктар у раёне, шляхам арганізацыі двух новых саўгасаў на плошчы 2.000 га, гэта значыць, амаль у два разы мы павялічваем плошчу, занятую пад саўгасамі.

Праблема жывёлагадоўлі, як важнейшае пытаньне, заняло шмат увагі і месца ў рабоце нашае партарганізацыі, але трэба адзначыць, што ў гэтым пытаньні мы яшчэ не дабіліся значных вынікаў: вызначаныя 7 калгасаў з ухілам сьвінагадоўлі ня поўнасьцю ўкамплектаваны сьвінаматкамі. Пабудаваць сьвінарнікаў трэба было 7, а пабудавана ўсяго 2, распачата пабудова 1 сьвінарніка. Сьвінаводчаскі саўгас «Новыя зеленкі» ўкамплектаваны сьвінаматкамі толькі на 20%, што, бязумоўна, зьяўляецца далёка недастатковым. Па часьці плянаваньня кармоў, што цесна зьвязана з разьвіцьцём жывёлагадоўлі, ня гледзячы на праведзеную растлумачальную працу ў раёне, таксама мала яшчэ зроблена. Па Чэрвенскаму раёну патрэбна засілаваць па пляну ўсяго 3.000 тон кармоў, а на сёньняшні дзень мы маем па раёну падрыхтаваных выкапаных ям па сіласаваньню на 640 тон, і засілавана ўжо 75 тон.

Па хлебазагатоўках у раёне мы мелі першыя чырвоныя абозы хлеба яшчэ 17 жніўня, даўшыя ў гэты дзень 2.000 пуд. хлеба. Жніценьскае заданьне па хлебазагатоўках па раёну выканана на 150%.

Трэба адзначыць, што пляны па хлебазагатоўках сваячасова былі даведзены да с/сав. і калгасаў—па многіх вёсках на агульных сходах кантрольныя лічбы былі прыняты з павялічэньнем.

Ня дрэнна абстаіць справа з рэалізацыяй пазыкі «Пяцігодка—у чатыры гады»: кантрольнае заданьне па рэалізацыі пазыкі выканана на сёньняшні дзень на 74%. Трэба было рэалізаваць усяго па раёну 68.255 руб., а рэалізавана ўжо 51.000 руб.

На пасьпяховае выкананьне ўсіх гэтых задач партарганізацыяй мабілізаваны ўся батрацка-бядняцкая маса калгасьнікаў, беднякі і серадцякі-адзіналічнікі. Мы правялі ў раёне нарады калгаснага актыву, жанчын-грамадчыц, канфэрэнцыю груп беднаты. Уся масавая праца, праводзімая на месцах у вёсках, калгасах і саўгасах, была пабудавана, выходзячы з рашэньняў партыі па выкананьні гэтых задач. Але побач з гэтым трэба адзначыць шалёнае супраціўленьне клясавага ворага пры выкананьні ўсіх гэтых задач.

Так, у канцы чэрвеня і пачатку ліпеня былі пушчаны варожыя чуткі аб вайне, і ў сувязі з гэтым узьнята паніка аб недахопе солі, дробных грошай і г. д. Райкомам, у сувязі з гэтымі чуткамі, быў мабілізаваны райпартактыў, які тэрмінова быў кінут ва ўсе насельныя пункты для правядзеньня масавай работы і растлумачэньня контррэвалюцыйнасьці гэтых чутак. Былі спробы разбурыць калгасы ў час вясеньняга севу (Дубоўручча), калі кляса-варожы элемэнт агітаваў за выхад адзіналічнікаў пахаць па сваіх палосах, захопліваючы калгасную зямлю. Моцныя заможнікі, ініцыятары гэтай справы, былі прыцягнуты да судовай адказнасьці. Арганізаваны паказальны судовы працэс па гэтай справе разаблачыў кулацкую махінацыю.

Мы мелі таксама і кулацкую агентуру ў шэрагах нашай партыі, калі кандыдаты партыі Раваніцкай ячэйкі Бастоўскі і Харытановіч—члены праўленьня калгасу «Пралетарская перамога», дапусьціўшы безгаспадарчасьць у калгасе, падрыхтавалі выхад некалькіх беднякоў з калгасу і самі вышлі з калгасу з мэтай разбурыць калгас. Гэтыя кулацкія агенты з шэрагаў КП(б)Б выключаны.

Мы мелі за гэты час у нашай арганізацыі праявы правага ўхілу. Так, у Грэбенкаўскай ячэйцы б. сакратар гэтае ячэйкі, будучы і старшынёй калгасу «Кастрычнік», сыстэматычна ігнараваў работу сярод батрацка-бядняцкае масы і ня выконваў партдырэктывы аб працы сярод беднаты, абапіраючыся ў сваёй практычнай працы выключна на заможную частку. Райком некалькі раз папярэджваў Таранду і прапанаваў Тарандзе арганізаваць групы беднаты, але Таранда лічыў непатрэбным гэта рабіць і ў калгасе гаварыў, што «добра будзе і так». У выніку такой дзейнасьці Таранды ў калгасе, вясной меў месца значны адліў у калгасе, і была дапушчана безгаспадарчасьць. Бюро Райкому выключыла гэтага апартуністага з шэрагаў КПб)Б, выходзячы з рашэньняў XVI зьезду ЎсеКП(б) аб несумяшчальнасьці праваапартуністычных поглядаў з прабываньнем у шэрагах партыі.

У ячэйцы хутарскога с/сав. сакратар ячэйкі Калатовіч С. і старшыня калгасу «Камунар» Нарэйка таксама недаацэньвалі работу з батрацтвам і беднатой і скрыўлялі на практыцы клясавую лінію, дапусьціўшы папа на калгасны сход пры супярэчнасьці калгасьнікаў і «надзяліўшы» яго сьвіньнёй калгаснай. Калатовіч і Нарэйка сваю сувязь з папом тлумачаць жаданьнем «перавыхаваць» папа ў той час, калі з батрацтвам і беднатой ніякае работы не вялі і над юнкорам, які выкрываў у сваіх допісах недахопы працы ячэйкі і калгасу, зьдзекаваліся. Нарэшце, іх выключылі з калгасу. Усё гэта было выкрыта дзякуючы допісам т. Міцкевіча, і апартуністыя і зажымшчыкі самакрытыкі атрымалі па заслугах: Калатовіч пастановай бюро РК выключаны з партыі, а Нарэйка атрымаў суровую вымову.

Акрамя гэтага, 4 жніўня на райпартсходзе мы мелі праавапартуністычную вылазку кулацкае агентуры ў нашай партыі--выступленьне Кагана, члена КП(б)Б, які ў спрэчках па дакладу аб выніках XVI зьезду ЎсеКП(б) выказаў, што ў адносінах да калгаснага руху ў нас драпежная лінія, няма цьвёрда-выразных дырэктыў у справе калектывізацыі, што бедната быццам прымусова ўцягнута ў калгасы і лічыць там сябе амаль «зарэзанай», што серадпякі ў калгас уступілі толькі баючыся раскулачваньня, што нагул калгасы драпежныя, што беднякі і серадпякі, не ўвайшоўшыя ў калгасы, стаяць сьпіной к калгаснаму руху і г. д. Гэтая праваапартуністычная тэорыя Кагана, як паклёп на калгасны рух, атрымала належны адпор з боку райпартсходу, які аднагалосна ў прынятай рэзалюцыі рашуча асудзіў праваапартуністычнае выступленьне Кагана. Кандыдат партыі Раваніцкай ячэйкі т. Навадворца лічыў непатрэбным выносіць рэзалюцыю, асуджаючую праваапартуністычнае выступленьне т. Кагана, лічачы яго палітычна «маласьвядомым». Такога-ж погляду прытрымліваўся і другі член Гарсавецкай яч. т. Левіт. Райпартсход ацэніў паводзіны гэтых т. т., як прымірэнцтва да праваапартунізму, даў ім рашучы адпор і даручыў Раваніцкай ячэйцы, дзе лічыцца Навадворца, і Гарсавецкай яч. у адносінах Левіта тэрмінова абгаварыць пытаньне аб прымірэнцкіх адносінах гэтых таварышоў да праваапартунізму, выходзячы з рашэньняў XVI зьезду ЎсеКП(б).

Выпадкі праяў правага апартунізму, якія былі ўжо і раней у Чэрвенскай арганізацыі, сьцьвярджаюць аб неабходнасьці далейшай рашучай барацьбы ўсяе нашай партарганізацыі за чыстату Ленінскае лініі партыі і рашучай непрымірымай барацьбы з усякімі ўхіламі ад гэтае лініі.

Зусім нядаўна ў нашым раёне мела месца новая вылазка клясавага ворага, які выступаў супроць Ленінскае нацпалітыкі, распальваючы нацыянальную розьнь і выкарыстоўваючы ў сваіх контррэвалюцыйных мэтах паасобных адсталых рабочых і калгасьнікаў і працсялян. Вось факты. У камуну «Чырвоны бераг» сёлетняю вясною быў пасланы на працу рабочы-яўрэй т. Бацьвіньнік, які ў хуткім часе заваяваў аўтарытэт сярод камунараў і быў абраны старшынёй гэтай камуны. На рабоце ён цалкам сябе апраўдаў: наладзіў работу камуны, узьняў прадукцыйнасьць працы. Камуна пад кіраўніцтвам т. Бацьвіньніка мае значныя дасягненьні як у частцы разьвіцьця жывёлагадоўлі, так і ў вясеньняй сяўбе і ўборачнай кампаніі. Але-ж гэта не падабаецца клясаваму ворагу. Выкарыстоўваючы адсталасьць паасобных камунараў, клясавы вораг імкнецца распаліць нацыянальную розьнь і падарваць аўтарытэт і работу т. Бацьвіньніка. У апошнія часы сын былога старшыні камуны вучань сямігодкі Комар Кастусь па адрасу т. Бацьвіньніка кідае розныя ганебныя словы. На нарадзе жанчын-грамадчыц, якая нядаўна адбылася, выступіў кулацкі падпявала Кацько з антысэміцкай прамовай.

Зусім нядаўна на пабудове шашы меў месца дзікі выпадак антысэмітызму. Грабары Давыдзенка Г. Ц., Краўчанка М. Г., Барысенка П. і Я. заклікалі да сябе ў будку рабочых яўрэяў і гвалтам, агідна зьдзекаваліся над імі. Барысенка пры кожнай сустрэчы з рабочым яўрэем абзываў living рознымі словамі.

Па гэтай справе па прапанове бюро РК КП(б)Б тэрмінова была арганізавана

камісія з прадстаўнікоў РК КП(б)Б, РВК, прафсаюзаў і сьледчых органаў, якая ўсе вышэйпаказаныя акты выкрыла, і матар'ял перададзен у пракуратуру. Справа ў хуткім часе будзе разглядацца паказальным працэсам.

Трэба адзначыць у сувязі з гэтай справай блізарукасьць рабачкому пабудовы шашы і яго старшыні партыйца Кадушніка. Праваапартуністычны рабачком ня вёў адпаведнай масавай работы, ня ведаў, што робіцца ў яго на пабудове шашы, і толькі выпадкова ўдалося выявіць усе гэтыя абураючыя факты праяў антысэмітызму.

Усе гэтыя факты гавораць аб тым, што растлумачэньне асноў Ленінскае нацыянальнай палітыкі і інтэрнацыянальнае выхаваньне працоўных мас у нас яшчэ не на належнай вышыні, што гэты прарыў у нашай працы выкарыстоўвае ў сваёй контррэвалюцыйнай дзейнасьці клясавы вораг.

Райком партыі вынес пастанову неадкладна правесьці і ўжо распачаў шырокую растлумачальную кампанію сярод шырокіх працоўных мас гораду і вёскі па нацпытаньню, растлумачыць контррэвалюцыйную сутнасьць антысэмітызму і шавінізму розных колераў.

Выяўленыя гнайнікі (хутарская справа, Грабенка, шасбуд, што высьвятлялася ўжо на старонках друку) аднэй з галоўных прычын зьяўляюцца таксама вынікам грубага зажыму крытыкі і самакрытыкі. Гэта павінна паслужыць у далейшай працы ўрокам для нашае партарганізацыі. Партарганізацыя павінна яшчэ больш і рашуча разгарнуць крытыку і самакрытыку, «ня гледзячы на асобы», бязьлітасна біць тых, хто «любіць» і «паважае» крытыку і самакрытыку, а на справе яе душыць (Калатовіч). Пад знакам далейшага разгортваньня бальшавіцкай крытыкі і самакрытыкі павінна прайсьці і наша партканфэрэнцыя.

Е. Салдаценка

# Парт'ячэйка—штаб кіраўніцтва калгасу

XVI зьезд УсеКП(б) паказаў, што «*рашучае значэньне* для работы партыі ў сучасны момант атрымлівае задача далейшага ўцягненьня ў калгасы бядняцкіх і серадняцкіх гаспадарак на добраахвотных пачатках, праблема арганізацыі працы ў калгасах, разьмеркаваньне ураджаю ўнутры калгасу, праблема падрыхтоўкі калгасных кадраў, уздыму культурнага ўзроўню калгасных мас, перамаганьне дробнабуржуазных хваляваньняў унутры калгасаў, усямернае замацаваньне калгасаў, як апорных пунктаў сацыялістычнага будаўніцтва на вёсцы». (Рэзалюцыя XVI зьезду ЎсеКП(б) па справаздачы ЦК).

Гэтае гістарычнае па свайму значэньню рашэньне павінна быць вядома ня толькі партыйным масам. Пастановы XVI зьезду павінны быць вядомы шырокім колам беспартыйных мас, масам рабочых, батракоў, беднякоў і серадняхоў. Партыйным арганізацыям трэба зразумець, што адна з цэнтральных і рашаючых задач усяе нашае работы—гэта павярнуць свой твар да новай калгаснай хвалі, стаць на чале мільённых мас, якія рушыліся ў калгасы, арганізаваць усю партыйную арганізацыю вёскі, камсамольцаў, арганізаваць армію саміх калгасьнікаў, перадавых пралетараў—у першую чаргу 25-тысячнікаў, якія заклікаены ў вёску на барацьбу за новыя мільёны калгасьнікаў, і будаваць сацыялізм.

Пэрыод пераможнага разгорнутага наступленьня сацыялізму па ўсім фронце, а ў першую чаргу на калгаснай будоўлі, патрабуе ад вясковых парт'ячэек такіх тэмпаў работы, якія-б цалкам забясьпечвалі поўнае і своечасовае практычнае ажыцьцяўленьне задач, якія высунуты нашай партыяй, яе штабамі—XVI і XIII зьездамі.

Ад парт'ячэек для ажыцьцяўленьня высунутых генэральнай лініяй партыі задач, у першую чаргу, патрабуецца самая рашучая перабудова ўсяе партыйнай работы на вёсцы, патрэбен паварот твару калгаснай і вясковай ячэйкі да пытаньняў унутрыкалгаснага будаўніцтва, г. зн., стаць на шлях сапраўднага кіраўніцтва гаспадарчым жыцьцём і замацаваньнем калгасу, наладзіць узаемаадносіны з тымі беднякамі і сераднякамі—адзінаасобнікамі, якія засталіся па-за калгасам, і тым самым арганізаваць іх (гэтых мас) прыліў у калгасы. Парт'ячэйка на вёсцы павінна стаць штабам калгаснага будаўніцтва.

На жаль, на сёньняшні дзень мы маем яшчэ надзвычайна мала такіх ячэек, якія-б сваёй работай цалкам забясьпечвалі выкананьне пастаўленых у сучасны момант задач. Такія ячэйкі налічваюцца адзінкамі.

Аднэй з такіх парт'ячэек, паказаўшых сапраўды бальшавіцкія тэмпы работы ў справе практычнага ажыцьцяўленьня і канкрэтнага правядзеньня ў жыцьцё задач, якія пастаўлены генэральнай лініяй партыі, зьяўляецца Радзееўская партыйная ячэйка калгасу імя Энгельса, Уваравіцкага раёну, Гомельскай акругі.

## Расьце і мацнее ячэйка

Да арганізацыі калгасу імя Энгельса ў радох ячэйкі налічвалася толькі 5 чал. (Тры члены КП(б)Б і два кандыдаты). З нараджэньнем калгасу (калгас імя Энгельса параўнальна малады: ён арганізаваўся ўвясну 1930 г.) само жыцьцё прымусіла радзееўскіх камуністых стаць на чале калгаснай хвалі ў Радзееўскім сельсавеце. У жорсткай, непрымірымай клясавай барацьбе з кулаком расла і мацнела партыйная ячэйка. За 6 месяцаў (пачынаючы з вясны) свае работы парт'ячэйка калгасу імя Энгельса вырасла ў 7 разоў. Яна цяпер у сваіх радох наліч-

вае 35 чал.—10 членаў і 25 кандыдатаў. Напярэдадні XIII і XVI зьездаў у ячэйку падана 14 заяў аб прыёме ў рады КП(б)Б. Ячэйка расьце за кошт батрацка-бядняцкіх мас, тых мас, ярасьць і актыўнасьць якіх была мабілізавана на барацьбу з клясавым ворагам, на ліквідацыю кулацтва як клясы і правядзеньне калектывізацыі. У калгасе імя Энгельса цяпер можна налічыць не адзін дзесятак беспартыйных актывістых—беднякоў і сераднякоў, арганізатараў калгасу у ваколічных вёсках, брыгадзіраў, будаўнікоў вялікай калгаснай будоўлі, гэрояў, народжаных першай бальшавіцкай вясной. Партыйная ячэйка здолела арганізаваць гэты актыў, актыў згуртаваўся навакол парт'ячэйкі, яго шэрагі з кожным днём усё павялічваюцца.

Парт'ячэйка зрабілася штабам калгасу, сапраўдным кіраўнікам калгаснага жыцьця. Яна сваячасова перабудавала свае шэрагі, павярнула свой твар да пытаньняў унутрыкалгаснага жыцьця, сваёй бальшавіцкай работай дабілася вялікіх посьпехаў у справе замацаваньня і разьвіцьця калгасу «Энгельса». Калгас імя Энгельса зьяўляецца ўзорам усяе Гомельшчыны. Ён абярнуўся ў магутны гаспадарчы арганізм і зьяўляецца лепшым агітатарам за калектывізацыю ва Ўваравіцкім і Буда-Кашалеўскім раёнах.

Два месяцы ўпартай работы і барацьбы за калгас далі свае вынікі: калгас вырас і замацаваўся. Зараз калгас імя Энгельса аб'яднае 256 гаспадарак (11 батрацкіх, 80 бядняцкіх, 165 серадняцкіх) з плошчай зямлі—2.500 га.

З першых дзён арганізацыі калгасу, у тыя часы, калі «камбінатаманія» ахапіла ўвесь Буда-Кашалеўскі і Ўваравіцкі раёны (так званы буда-кашалеўскі «агракамбінат»), радзееўскія камуністыя, абапіраючыся на масы, упарта змагаліся за арганізацыйнае і гаспадарчае замацаваньне калгасу. Пры самой арганізацыі калгасу і пасьля арганізацыі ячэйка правяла дзесяткі сходаў беднаты і актыву вёскі, адначасова падымаючы масы беднаты і сераднякоў-калгасьнікаў на падрыхтоўку да веснавой пасеўнай кампаніі і, як вынік гэтага, на замацаваньне калгасу.

Перш за ўсё парт'ячэйка, пры дапамозе райкому партыі, першай у Гомельшчыне дабілася абагуленьня ўсіх асноўных сродкаў вытворчасьці. На працягу трох дзён усё насеньне было засыпана, увесь інвэнтар зьвезены, коні і рагатая жывёла абагулены і пастаўлены ў агульныя хлявы, якія адбудаваны на працягу аднаго тыдню. І характэрна, што ўся вёска Радзеева, за выключэньнем аднэй гаспадаркі, цалкам, на добраахвотных пачатках, абагуліла ўвесь насенны фонд і ўсю маёмасьць.

Лепшыя гаспадарчыя будынкі калгасьнікаў былі ўзламаны. Будаваўся новы калгасны двор. У вёсцы Радзеева адбылася «рэвалюцыя»,—неслася па раёнах Гомельшчыны чутка. Усе ехалі паглядзець, што рабілася ў вёсцы Радзеева. Радзееўскі актыў, на чале з парт'ячэйкай, паказаў бальшавіцкія тэмпы рэвалюцыйнай работы; гэта работа злучалася з вялікай масавай растлумачальнай работай, пры апоры на батрацка-бядняцкія масы. Няўхільна, ні кроку не адступаючы назад, праводзіла і ажыцьцяўляла парт'ячэйка генэральную лінію партыі.

Яшчэ ў першыя дні сяўбы парт'ячэйка першачарговай сваёй задачай паставіла арганізацыю працы ў калгасе.

## Арганізавалі працу, паднялі прадукцыйнасьць

Напярэдадні веснавой сяўбы (сакавік) парт'ячэйка сумесна з праўленьнем калгасу шырока абгаварыла пытаньне арганізацыі працы ў калгасе. Спачатку былі арганізаваны вытворчыя нарады (6 нарад), якія ў сваю чаргу, пад кіраўніцтвам ячэйкі (там работалі камуністыя), зразумелі важнасьць пытаньня арганізацыі працы. Пасьля шырокага абгаварэньня гэтага пытаньня сярод мас самых калгасьнікаў была прынята 7-разрадная тарыфная сетка, па якой суадносіны паміж 1-м і 7-м разрадамі складаюць 1 : 3 (1-й разрад атрымлівае 65 к., а 7-й—2 руб.).

Уся праца калгасьнікаў улічваецца па спэцыяльных картках і заносіцца ў разьліковы ліст кожнага калгасьніка ў днёх і гадзінах. У калгасе ўведзена зьдзельшчына. Кожнаму калгасьніку даецца

цьвёрдае заданьне. Узараць, напрыклад, адзін гэктар даецца адзін дзень на два параконных плугі, забаранаваць у тры сьляды тры гэктары на аднаго чалавека пры 6 канёх, засеяць 2 з паловай га адзінаццаціразраднай сявяркай, жыта зжаць на 1 га было ўстаноўлена 11 чалавекадзён. На будоўлю таксама было дана цьвёрдае заданьне (за перапрацоўку норм праўленьне выплачвае, а за недавыпрацоўку вылічвае).

Наогул трэба падкрэсьліць, што пастаянная арганізацыя працы ў калгасе імя Энгельса была галоўнай умовай як арганізацыйнага, так і гаспадарчага замацаваньня калгасу. Самі кіраўнікі калгасу прызнаюць, што арганізацыя працы і правільны падыход да аплаты выратавалі малады калгас ад імкненьняў і пасягацельстваў клясавага ворага разбурыць, з сярэдзіны ўзарваць калгас.

## Па-бальшавіцку засеялі, па-бальшавіцку ўбралі

Клясавы вораг—кулак, адчуваючы сваю нямінучую сьмерць, аказваў шалёнае супраціўленьне. Кулак не зяваў, бо ведаў, што калгас—яго сьмерць. Кулакі в. Лапічы, арганізаваныя ў рэлігійныя сэкты, пускалі ў ход самыя выпрабаваныя сродкі для развалу калгасу: кулак дзейнічаў праз мала сьвядомых жанчын на глебе рэлігійнага пачуцьця, подкупамі і нават запалоханьнем і зьбіеньнямі беднякоў-калгасьнікаў. Гэта не памагала—кулакі пралазілі ў калгас.

Але радзееўскія камуністыя, разам з уваравіцкім райкомам партыі, сваячасова здолелі арганізаваць батрацка-бядняцкія масы на барацьбу з азьвярэлым кулаком. Ярасьць і актыўнасьць беднаты была мабілізавана супроць кулака і антыкалгаснага элемэнту ў калгасе. Антыкалгасны элемэнт быў выкінут з калгасу.

Веснавая пасеўная кампанія праведзена з вялікім посьпехам. Мэтадамі сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва Радзееўская парт'ячэйка дабілася таго, што веснавая сяўба была скончана за тыдзень да тэрміну, перавыканаўшы сяўбовы плян на 25 проц. Спачатку калгас імя Энгельса меркаваў засеяць пад яравыя 730 га; пасля-ж дэталёвага абмеркаваньня пляну сяўбы на актыве і батрацка-бядняцкай групе было вырашана засеяць ня менш 900 га. Засеяна-ж было 963 га. Увесь прысеў праведзены сваім насеньнем і бяз ужываньня (акрамя сявярак) машын. Пры сяўбе былі ўжыты ўсе агранамічныя мерапрыемствы: радковы засеў, гатунковае насеньне, штучнае ўгнаеньне, пратручваньне, засеў на цаліне. У выніку—калгас мае вялікі ўраджай.

— Падняць ураджай і дабіцца такіх посьпехаў, — заяўляюць калгасьнікі, — адзінаасобным парадкам мы не маглі. І сапраўды, калгас мае рэкордны ўраджай.

Уборку ўраджаю, як і веснавую сяўбу, калгасьнікі правялі па баявому. Пад кіраўніцтвам ячэйкі калгасьнікі адразу, пасьля сканчэньня веснавой сяўбы, за месяц да ўборкі, пераключыліся на баявое правядзеньне падрыхтоўкі да ўборачнай кампаніі. Пры самой уборцы калгасьнікамі была ўлічана практыка вясны. Папершае, уся рабочая сіла была разьбіта на 9 ударных брыгад. Кожны загадзя ведаў сваю работу. Былі вылучаны брыгадзіры.

У часе пачатку ўборкі ад ударніцтва і сацыялістычнага спаборніцтва паміж асобнымі брыгадамі ўвесь калгас імя Энгельса перайшоў на ўдарныя тэмпы работы. Увесь калгас абвясьціў сябе ўдарным. Усе калгасьнікі і калгасьніцы на час уборкі адмовіліся ад выхадных дзён, на палёх калгасу працавала 700 ударнікаў. Калгасьнікі «Энгельса» на сваіх палёх па ўборцы ўраджаю праявілі вялікі гэраізм. У гэты гэраізм могуць ня верыць толькі сьляпыя або правыя апартуністыя.

Увесь ураджай азімых—383 га, якія засеяны ў адзінаасобным парадку да арганізацыі калгасу, калгасьнікі ўбралі калектыўна. І тут парт'ячэйка сябе выявіла, агітуючы за калектыўную ўборку, за сумесную работу.

Вялікую ролю ў калектыўнай уборцы, ва ўкараненьні калектывізму і ўздыму прадукцыйнасьці працы ў калгасе адыграла грамадзкае харчаваньне. Яшчэ ў часе сяўбы, вясною, была арганізавана агульная сталоўка, якая кожны дзень прапускала 80-100 абедаў (столькі-ж сьнеданьняў і вячэр). На палі ў часе

уборкі даставляліся гарачыя абеды. Ясьлі дапамагалі падняцьцю прадукцыйнасьці і наладжаньню сталай работы сярод калгасьніц.

Добрае кіраўніцтва парт'ячэйкі забясьпечыла ня толькі сталую арганізацыю працы і аплату ў калгасе (раней усе камуністыя былі ў праўленьні. Пасьля сяўбы ў праўленьне ўведзены тры серадзякі). Серадзякі—Карпенка Рыгор, Зяблеў Кастусь і шмат іншых былі першымі ініцыятарамі ўдарніцтва і сацыялістычнага спаборніцтва ў калгасе. Адначасова з прыцягненьнем серадняка да кіраўніцтва калгасам, парт'ячэйка падняла і палітычную актыўнасьць гэтых мас на барацьбу супроць антыкалгасных элемэнтаў, якія ўносілі разлад і падрыў працы ў калгасе.

Дзякуючы сацыялістычнаму спаборніцтву і ўдарніцтву, дзякуючы добраму кіраўніцтву ячэйкі калгас імя Энгельса першым у раёне з посьпехам скончыў уборку і распачаў абмалот. Калгас імя Энгельса першым у раёне арганізаваў чырвоны абоз і на ссыпны пункт ва Ўваравічы даставіў 300 цэнтн. збожжа першага абмалоту.

## „Аб такіх прыбытках раней мы і думаць не маглі"

Мы ўжо гаварылі, што калгас ужыў усе агранамічныя мерапрыемствы ў сваёй гаспадарцы, што адзінаасобна,—заяўляюць калгасьнікі,—усяго гэтага зрабіць яны не змаглі-б. Дзякуючы гэтаму першы год, у выніку простага складаньня, свой ураджай, параўнальна з мінулым годам, параўнальна з адзінаасобнікамі ваколічных вёсак, павялічылі на 30%, а па некаторых культурах—і на 40 проц.

Калгасны гэктар жыта дае 13 цэнтнэраў, у адзінаасобнікаў—8-9 цэнтнэраў, аўса, паводле самага мінімальнага падліку, калгасьнікі сабралі 12 цэнтн. з га, а ў адзінаасобнікаў—9 цэнтнэраў, яравая пшаніца адзінаасобнікаў амаль загінула, а ў калгасе пшаніца дае 7 цэнтнэраў, калгасны гэктар бульбы дае 115 цэнтнэраў, адзінаасобны—70-80 цэнтнэраў...

Валавы прыбытак «Энгельса»—вынік простага складаньня—ужо падлічаны. Ён вызначаецца мінімумам у 217.374 р. Калі разьмеркаваць гэты прыбытак на кожную гаспадарку (ўлічваючы адзіночак, маласямейных і батракоў, якіх каля 30 гаспадарак), дык прыпадзе больш 800 руб. на кожную гаспадарку. Такога прыбытку ня бачылі нават заможныя гаспадакі Ўваравіцкага раёну. Гэты прыбытак атрыманы з наступных крыніц: ад земляробства—160.470 руб., ад гародніцтва—21.274 руб., ад лугаводзтва—9.317 р., ад жывёлагадоўлі—68.774 руб. Акрамя гэтага, калгас мае і дробныя прадпрыемствы: кузьню, ветраныя млыны, майстэрню па вырабу ільняных малатарняў і інш., што дае 11.544 руб.

## Калгасная арытмэтыка

Для правільнага разьмеркаваньня ўраджаю і прыбыткаў (217.374 руб.) калгасьнікі падлічылі перш за ўсё прыбытак ад паляводзтва, гародніцтва і абагуленай малочнай жывёлы, што дало суму 209.716 руб.

З гэтае сумы вылічаны 5% ў фонд, які падлягае разьмеркаваньню паміж членамі калгасу на абагуленую маёмасьць. Гэтыя 5% склалі лічбу 10.485 р. 80 к. Абагуленая маёмасьць калгасьнікаў ацэньваецца ў 53.919 руб. Такім чынам на кожны абагулены рубель прыпадае 19 кап.

Увесь прыбытак, які застаўся ўжо ад усіх галін гаспадаркі, пасьля ўлічэньня 5% адлічэньня (260.889 руб.), разьмеркаваны наступным парадкам:

1) Насенны фонд з 20%-ным пашырэньнем плошчы складае 20.764 руб.; 2) страхавы насенны фонд—2.076 руб.; 3) фуражны фонд—20.715 руб.; 4) сельска-гаспадарчы падатак і страхоўка—5.500 руб.; 5) пакрыцьцё запазычанасьці—43.465 руб. Такім чынам, расходы склалі суму ў 92.520 р. Умоўна чысты прыбытак складаецца з 168.369 руб. (260.889 р. мінус 92.250 р.).

Пасьля гэтага калгасьнікі правялі наступныя адлічэньні: а) у непадзельны капітал адлічана 10%—16.837 руб., б) культурна-бытавы фонд і дапамогу вучням-калгасьнікам—2%, што складае 3.367 р., в) для прэм'яваньня лепшых калгасьнікаў і на дапамогу адзінаасобнікам-беднякоўм і серадняком адлічана 2%—3.367 р., г) і, нарэшце, для забесьпячэньня і дапамогі непрацаздольным—3%—5.050 р.

## Як забясьпечваюцца непрацаздольныя

Аб забесьпячэньні непрацаздольных у калгасе доўга вяліся спрэчкі. І тут ячэйка кіравала ўсім, параіўшы калгасьнікам падзяліць непрацаздольных на тры катэгорыі (прапанова ячэйкі калгасьнікамі аднагалосна ўхвалена): а) дзеці да 10 год атрымліваюць 36 руб. у год, б) дзеці ад 10 да 14 год—60 руб., в) непрацаздольныя старыя, якім звыш 60 год,—90 руб. Першыя дзьве катэгорыі, згодна пастановы сходу, атрымліваюць дапамогу поўнасьцю пры ўмове, калі бацькі працуюць у гаспадарцы ня менш 75% усіх працоўных дзён у годзе. Працуючыя ад 25 да 70% працадзён у годзе атрымліваюць на дзяцей у палавінным разьмеры. Тыя, хто працуе менш 25% працадзён, дапамогі не атрымліваюць. Старыя забясьпечваюцца цалкам з тым, аднак, каб не перавысіць прыбытку сярэдняга рабочага калгасьніка (усе старыя пагаспадарску расстаўлены на тую ці іншую работу ў калгасе).

— Такую сыстэму,—гаварылі на сходзе калгасьнікі,—мы зрабілі для таго, каб паказаць усім тым, хто віляе і кепска працуе, хто на калгасную гаспадарку махае рукой, што наш калгас не сабез. Калгасьнікі сьцьвярджалі:

— Мы гэтым даем стымул для ўзьняцьця прадукцыйнасьці работы, мы падцягваем гэтым тых, хто адстае.

І сапраўды, пасьля абмеркаваньня парадку разьмеркаваньня ўраджаю прадукцыйнасьць працы ў калгасе павялічылася як ніколі. Пасьля разьмеркаваньня на другі-ж дзень на работу выходзілі ўсе 100% працаздольных. Старэйшы брыгадзір-палявод тав. Карпенка Рыгор на заўтрашні-ж дзень «скардзіўся» праўленьню: —Няма куды падзець рабочых: на работу вышлі ўсе—старыя, жанчыны і дзеці.

Такім чынам, замест недахопу рабочай сілы (хаця і раней ўся сіла, патрэбная для работы, выходзіла), калгасьнікі маюць вялікі лішак.

## Прыбытак ад жывёлагадоўлі—68.774 р.

Калгасьнікі аддаюць вялікую перавагу разьвіцьцю малочнае гаспадаркі. Аднаго малочнага пагалоўя ў калгасе налічваецца 721 шт. Усіх кароў 816 шт., быкоў-вытворцаў—24, цялят ад 1 году да 2-х—191 шт., цялят да году—154 шт., сьвіней—120 шт., авец—443 шт. Калгас «Энгельс» знаходзіцца каля гораду Гомелю і, як відаць з прыбыткаў ад малака, ён мае вялікія пэрспэктывы на разьвіцьцё малочнае гаспадаркі. Трэба сказаць, што ў гэтай галіне калгас зьяўляецца ўзорам калгасаў Гомельшчыны. На сваім сходзе, пры разьмеркаваньні ўраджаю, калгасьнікі заявілі:

— Адна з выгодных галін—малочная гаспадардка. Гораду таксама трэба дапамагчы.

Калгасьнікі пастанавілі вылучыць фонд у 8.250 руб., якія павінны пайсьці на паляпшэньне пароды і вырошчваньне маладняка.

Акрамя таго, з атрыманых крэдытаў 25.000 руб. пайшло на разьвіцьцё малочнай гаспадаркі.

Ітак, аднаго малака пралетарскім цэнтрам г. Гомелю калгас здае 778.680 літ. За малако калгасьнікі атрымоўваюць 62.294 руб. прыбытку. Такім чынам, калгас здае малака, прыкладна, столькі, сколькі здавалі ўсе кулацкія гаспадаркі Ўваравіцкага раёну ў мінулым годзе. Прыплод маладняка—348 шт.—дае прыбытку 6.480 руб. Прыбытак ад аднаго малочна-прадукцыйнага стада—68.764 р.

## Па колькасьці і якасьці

Лічба, якая падлягае разьмеркаваньню, выявілася ў 181.947 руб. Па пастанове калгасьнікаў яна разьмеркавана па колькасьці і якасьці ўнесенай кожным калгасьнікам працы. Пры разьмеркаваньні дапамагла 7-разрадная тарыфная сетка.

Усіх трудавых адзінак (чалавека-дзён) на 1-е жніўня калгасьнікі адпрацавалі 46.266. Да канца гаспадарчага году будзе патрачана 35.920 трудавых адзінак. Усяго за год—82.186 прац. адзінак.

Пасьля гэтых падлікаў калгасьнікі выявілі свой прыкладны прыбытак. Пры-

бытак аказаўся вялікім: на кожны працоўны дзень (улічваючы ўсе разрады) прыходзіцца 1 р. 62 кап.

А калі падлічыць гароды і жыта, каторыя калгасьнікі маюць у аднаасобным карыстаньні, дык кожны працоўны дзень ацэньваецца, прыблізна, больш 2-х рублёў.

— Гэта сума для нас нябывалая,—заяўляюць калгасьнікі.

## Чаму Андрушкевіч зарабіў у тры разы больш, чым Андрэенка

На сёньняшні дзень ужо кожны калгасьнік падлічыў і ведае свае вынікі першага году калектыўнага гаспадараньня. Ніжэй паданая таблічка паказвае аб правільным разьмеркаваньні ўраджаю і прыбыткаў у калгасе імя Энгельса. Таблічка ўжо прапрацована ўсімі калгасьнікамі былой Гомельскай акругі.

## Што атрымаў кожны калгасьнік

| Прозьвішча калгасьнікаў | Лік едакоў | З іх працаздольных | Прац. адзін. да 1/8 | Лік прац. адз. да канца году | Усяго будзе праца-дзён | Сума прыбыткаў у руб.: За працу | За ўнес. маёмасьць | Дапамога непрацазд. | Разам | Авансавы забор | Застаецца атрымаць |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Андрэенка Т. | 7 | 2 | 92 | 70 | 162 | 259 | 26 | 18 | 303 | 54 | 249 |
| Андрушкевіч Я. | 9 | 3 | 308 | 231 | 539 | 860 | — | — | 860 | 197 | 663 |
| Васіленка Т. | 12 | 7 | 769 | 577 | 1336 | 2137 | 81 | — | 2218 | 350 | 1868 |
| Леташкоў Е. | 10 | 5 | 386 | 280 | 672 | 1075 | 120 | — | 1195 | 167 | 1028 |
| Музычэнка Т. | 6 | 2 | 392 | 294 | 685 | 1096 | 75 | — | 1171 | 76 | 1095 |
| Барабанаў Я. | 6 | 2 | 544 | 406 | 950 | 1520 | 36 | — | 1556 | 130 | 1426 |

У таблічку ўвайшоў і прыбытак, які разьмеркаваны на трудадні: па 40 кап. дарослым і 20 кап. дзецям.

Гадавы прыбытак кожнага калгасьніка, як відаць, залежыць ад колькасьці і якасьці працоўных адзінак, патрачаных кожнаю гаспадаркаю. Возьмем тав. Андрэенка, які пры двух працаздольных прапрацаваў (улічваючы і тыя дні, які ён павінен адпрацаваць да канца году) 162 чалавека-дні. За гэта ён атрымоўвае толькі 303 рублі. На непрацаздольнага таксама атрымоўваў 18 руб. замест 36. А вось Андрушкевіч, які сумленна адносіўся да працы, пры трох працаздольных атрымоўвае амаль у тры разы больш чым Андрэенка. Вынік яскравы: хто больш працаваў, больш атрымоўваў, «хто не працуе, той ня есьць».

Добра працаваў і Барабанаў Я., які пры 2-х працаздольных атрымоўваў 1556 руб.

Яшчэ на сходзе партячэйкі, дзе абмяркоўвалася пытаньне разьмеркаваньня ўраджаю, калгасьнікі сьцьвярджалі, што гэтыя сумы—самыя мінімальныя.

## „Ніводнага кілё хлеба прыватніку“

На сваім сходзе, пад кіраўніцтвам партячэйкі, у тыя дні, калі абмяркоўваўся парадак разьмеркаваньня ўраджаю, калгасьнікі заявілі: «Такі прыбытак дазваляе нам здаць пралетарскай дзяржаве вялікую колькасьць лішкаў розных прадуктаў. Мы добра ведаем, што выкананьне прамфінпляну рабочымі залежыць ад забесьпячэньня іх прадуктамі харчаваньня».

Калгасьнікі вырашылі здаць усе лішкі дзяржаве: 820 цэнтн. яравых і 700 цэнтн. жыта—¼ частку валавога ўраджаю і 10.000 цэнтн. бульбы—каля паловы валавога ўраджаю. Аднэй гародніны калгасьнікі здаюць на суму каля 20.000 руб.

— Ніводнага кілё хлеба прыватніку,—заявілі калгасьнікі.

## За індустрыялізацыю, за пяцігодку ў чатыры гады

Кулацкая агітацыя ўнутры самога калгасу вяла да таго, каб разьмеркаваньне ўраджаю праводзіць толькі па дварох і едакох. Клясавыя ворагі ў пачатку году прарочылі, што «калгасьнікаў пасадзяць на паёк», што калгасьнікі будуць «галадаваць».

— Мы добра ведаем,—заяўлялі калгасьнікі,—куды вядзе агітацыя антыкалгасных элемэнтаў. Гэта агітацыя вяла да падрыву нашага маладога, але ўжо моцнага калгасу.

Партячэйка калгасу прымае ўсе рашучыя захады да таго, каб яшчэ больш умацаваць калгас. Гэты калгасператвараецца ў магутны гаспадарчы арганізм. Ячэйка паказам агітуе за палітыку камуністычнай партыі, за калектывізацыю.

У адказ на імкненьне клясавых ворагаў сарваць калектывізацыю калгасьнікі, пасьля адпаведнай растлумачальнай работы, вырашылі: «датэрмінова падпісацца на пазыку «Пяцігодка—у чатыры гады» у памеры ня менш двухтыднёвага заработку кожнага працаздольнага калгасьніка».

## На праверку мас

Партячэйка і кіраўнікі калгасу імя Энгельса добра ўсьвядомілі партыйныя дырэктывы аб узмацненьні дружбы калгасьнікаў іх калгасу з адзінаасобнікамі. Лёзунг партыі: «Не травіць адзінаасобніка—заўтрашняга калгасьніка...» ператварыўся ў штодзённую праграмную дзейнасьць кіраўнікоў калгасу

Калгас «Энгельс» вышаў на праверку мас: праўленьне калгасу робіць справаздачы адзінаасобнікам ваколічных вёсак Сталінскага і Радзееўскага сельсаветаў аб сваіх посьпехах і барацьбе за калгасную гаспадарку.

Лепшай парукай гэтай дружбы зьяўляецца тая дапамога, якую «Энгельс» аказвае адзінаасобнікам. У веснавую сяўбу калгасьнікі адпусьцілі адзінаасобнікам 1500 пудоў аўсу і грэчкі, 15 быкоў-вытворцаў, 4 жарабкі, кнyроў, дапамагалі ўбіраць азімыя і яравыя 8-мі гаспадаркам. Цяпер калгасьнікі арганізавалі 2 малацільныя абозы для абмалоту азімых адзінаасобнікаў.

Ячэйка калгасу «Энгельса» здолела мабілізаваць масы беднякоў і серадня-коў-калгасьнікаў на замацаваньне калгасу, на баявое правядзеньне веснавой сяўбовай кампаніі, уборкі ўраджаю, разьмеркаваньне гэтага ўраджаю. Партячэйка арганізавала сацыялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва ў калгасе, праз якія дабілася вялікіх посьпехаў.

Асеньняя сяўбовая кампанія ў калгасе «Энгельса» ўжо распачалася. У бойцы за бальшавіцкую восень радзееўскія камуністыя здолелі па баявому і сваячасова мабілізаваць масы калгасьнікаў. У калгасе арганізаваны плянавыя групы па складаньню сустрэчнага прамфінпляну ў калгасе. Па гэтаму пляну азімы клін з 250 гэктараў павялічваецца да 330, па гэтаму пляну прадугледжваецца плошчу пад гародніну павялічыць у 2½ разы.

І асеньняя сяўбовая кампанія праходзіць праз мэтады сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва. На выкананьне пляну асеньняй сяўбы мабілізавана актыўнасьць усіх калгасьнікаў, тых калгасьнікаў, якія вытрымалі бойку за калгас, вамацавалі калгасную гаспадарку, пасьпяхова правялі сяўбу і, пад кіраўніцтвам партячэйкі, забясьпечылі правільнае разьмеркаваньне ўраджаю і прыбытку калгасу. Цяпер гэтыя масы арганізуюцца ў брыгады для паходу ў бліжэйшыя вёскі па правядзеньні калектывізацыі.

Радзееўская партячэйка зьяўляецца сапраўдным штабам кіраўніцтва калгасу, зьяўляецца тым маторам, які прыводзіць у рух усе прывадныя рамні—вытворчыя нарады, брыгады, калгасны актыў. Ячэйка КПб)Б шчыльна падыйшла да пытаньняў унутрыкалгаснага будаўніцтва. Яна стаіць на чале калгаснага руху ўсяго Радзееўскага сельсавету. У радзееўскіх камуністых трэба вучыцца працаваць.

# АФІЦЫЙНЫ АДДЗЕЛ

## ПАСТАНОВА
## бюро ЦК КП(б)Б па пытаньні аб самаабкладаньні ад 29-VIII—30 году

Рэканструкцыя сельскай гаспадаркі, перабудова яе на сацыялістычных пачатках і зьвязаны з гэтым агульны культурна-гаспадарчы ўздым калгасьнікаў і бядняцка-серадняцкіх мас з кожным годам патрабуе ўсё больш сродкаў на задавальненьне іх культурна-гаспадарчых патрэб. Побач з павялічваючыміся з году ў год сродкамі, якія адпускаюцца дзяржавай на гэтыя мэты, неабходна скарыстаць ініцыятыву і сродкі самога насельніцтва, таму асабліва значэньне набывае самаабкладаньне насельніцтва на правядзеньне розных культурна-гаспадарчых мерапрыемстваў. Выходзячы з гэтага, бюро ЦК КП(б)Б пастанаўляе:

1. Устанавіць наступны пералік культурных і гаспадарчых мерапрыемстваў, на якія дазваляецца прыняць самаабкладаньне:

а) на арганізацыю, утрыманьне і абслугоўваньне (будаваньне новых, пабудаваньне няскончаных, пашырэньне, найманьне, капітальны і бягучы рамонт будынкаў, абсталяваньне, апал і асьвятленьне) гаспадарчых, культурна-асьветных і санітарных установаў мясцовага і грамадзкага значэньня: школ, хат-чытальняў, клюбаў, чырвоных куткоў, дзіцячых дамоў, ясьляў і пляцовак, бальніц, доктарскіх, фэльчарскіх, вэтэрынарных і аграномічных пунктаў, дамоў для інвалідаў і для састарэлых, лазьняў і хлебазапасных магазынаў;

б) на правядзеньне новых, утрыманьне і рамонт існуючых дарог, мастоў, грэбляў, пераправаў і перавозаў, якія маюць мясцовае сельскае і грамадзкае значэньне;

в) на ўпарадкаваньне паселішчаў: капаньне і ўтрыманьне ў парадку студняў, грамадзкіх саджалак, пляцоў магільнікаў для здохлай жывёлы, плошчаў грамадзкага карыстаньня (выганаў, лугоў), а таксама на ўтрыманьне палявых вартаўнікоў;

г) на супроцьпажарныя мерапрыемствы; будаваньне, капітальны і бягучы рамонт і гаспадарчае ўтрыманьне пажарных дэпо і хлявоў, на набыцьцё і ўтрыманьне супроцьпажарных машын і прыладаў, на ўтрыманьне пажарных вартаўнікоў;

д) на правядзеньне лесакультурных работ у лясох мясцовага значэньня, на дрэванасаджэньне па шляхох мясцовага значэньня, на зялёныя насаджэньні вакол грамадзкіх будынкаў;

е) на набыцьцё і рамонт сельска-гаспадарчых машын, на набыцьцё і ўтрыманьне заваадзкой жывёлы грамадзкага карыстаньня.

2. Пры раскладцы самаабкладаньня кіравацца наступным:

а) на гаспадаркі, вызваленыя цалкам ад сельска-гаспадарчага падатку па маламоцнасьці, самаабкладаньне налічваецца, выходзячы з 2-х рубл. акладу падатку;

б) на гаспадаркі, вызваленыя цалкам ад сельска-гаспадарчага падатку па іншых ільготах, самаабкладаньне налічваецца, выходзячы з палавінных налічаных на іх акладаў сельска-гаспадарчага падатку;

в) рабочыя і служачыя, крыніцай існаваньня якіх зьяўляецца выключна заработная плата, ня прыцягваюцца да самаабкладаньня;

г) астатнім катэгорыям насельніцтва самаабкладаньне налічваецца ў парадку, паказаным у арт. 12 пастановы ЦВК і СНК СССР.

Агульны сход грамадзян данага паселішча, а таксама пленум сельскіх і местачковых саветаў маюць права ня прыцягваць да самаабкладаньня гаспадаркі, пералічаныя ў п.п. «а» і «б» гэтага артыкулу, а таксама гаспадаркі вайскоўцаў, знаходзячыхся ў шэргах РСЧА, інвалідаў працы і вайны і чырвоных партызан.

3. Разьмер самаабкладаньня па данаму паселішчу ў цэлым на працягу году ня можа быць больш 50 проц. агульнай сумы сельска-гаспадарчага падатку, належачай да ўплаты на працягу году з аднаасобных гаспадарак данага паселішча, разам з сумай, якая належала-б з грамадзян, уплачваючых падаходны падатак і вызваленых ад яго па неабкладаемаму мінімуму, калі-б гэтыя платнікі абкладаліся сельска-гаспадарчым падаткам.

Калі для ажыцьцяўленьня намечаных мерапрыемстваў паказаны разьмер самаабкладаньня недастатковы, агульны сход грамадзян можа ўстанавіць разьмер самаабкладаньня ў межах да 100 проц. паказанай вышэй сумы падатку. Гэткае павышэньне самаабкладаньня патрабуе асобнага зацьверджаньня раённага выканаўчага камітэту.

4. Устанавіць, што самаабкладаньне праводзіцца:

а) ва ўсіх сельскіх мясцовасьцях;

б) мястэчках, і

в) сельскіх паселішчах, якія знаходзяцца ў межах гарадоў.

5. Агульны нагляд за выдзеньнем самаабкладаньня ўскладаецца на раённыя выканаўчыя камітэты, якія павінны складаць раённыя пляны правядзеньня самаабкладаньня. Нагляд за будаўніцтвам, якое праводзіцца за сродкі самаабкладаньня, ускласьці на раённыя выканаўчыя камітэты. Народным камісарыятам—асьветы, аховы здароўя, земляробства, унутраных спраў і Белдартрансу аказваць патрэбную тэхнічную дапамогу ў будаўніцтве, якое праводзіцца на сродкі самаабкладаньня, а таксама ўжыць патрэбныя захады для забесьпячэньня гэтага будаўніцтва патрэбнымі будаўнічымі матар'яламі, у прыватнасьці, уключыць у свой плян забесьпячэньня дэфіцытнымі матар'ямамі будаўніцтва за сродкі самаабкладаньня.

6. Агульны падлік разьмеру і паступленьня самаабкладаньня арганізуецца Народным камісарыятам фінансаў.

7. Для поўнага выкананьня з посьпехам самаабкладаньня сельскія саветы павінны забясьпечыць актыўны ўдзел у растлумачальнай працы па самаабкладаньню батрацтва, калгасьнікаў, бядняцка-серадняцкіх мас і грамадзкасьці вёскі.

Самаабкладаньне павінна праводзіцца выключна на добраахвотных пачатках. Прымяненьне адміністрацыйнага націску на насельніцтва сурова забараняецца.

8. Абавязаць РВК і сельсаветы, а таксама належныя рэвізійныя камісіі ўстанавіць строгі кантроль над тым, каб сродкі па самаабкладаньню насельніцтва выдаткоўваліся своечасова і выключна на мэты, вызначаныя сходамі.

9. Даручыць Народнаму камісарыяту фінансаў выдаць інструкцыю па прымяненьні гэтае пастановы.

10. Фракцыям РВК і сельсаветам рэкамэндаваць насельніцтву ўстанаўліваць ня больш 2-х тэрмінаў для ўзносу самаабкладаньня з тым, каб у кастрычніку паступіла ня менш 50 проц. самаабкладаньня і не пазьней сьнежня—астатнія 50 проц. Устанавіць, што гранічныя тэрміны ўзносаў самаабкладаньня ня могуць перавышаць 2-х месяцаў, лічачы з дню вынясеньня пастановы агульнага сходу.

11. Лічыць магчымым удзел калгасаў у самаабкладаньні. Даручыць Белкалгасцэнтру даць паказаньні ўсім калгасам у духу ліста старшыні Калгасцэнтру Саюзу, які апублікаваны ў газэце «Праўда» за 24 жніўня г. г.

# Аб задачах асеньняй пасеўнай кампаніі і падрыхтоўцы да далейшай калектывізацыі

## (Пастанова бюро ЦК КП(б)Б ад 29-VIII—30 г.)

Папярэдняе абмеркаваньне парадку разьмеркаваньня ўраджаю і прыбыткаў у калгасах яскрава выяўляе значную перавагу калектыўнай працы над працай аднаасобнікаў, што ўжо выклікала па шэрагу раёнаў новы прыліў бядняцка-серадняцкіх гаспадарак у калгасы.

Своячасовая ўборка, асабліва тэхнічных і прапашных культур, правільнае разьмеркаваньне прыбыткаў і ўраджаю калгасаў, арганізацыя працы, сапраўднае разгортваньне масавай работы сярод калгасьнікаў і аднаасобнікаў і далейшая рашучая барацьба з кулацтвам будзе зьяўляцца рашаючым фактарам у пасьпяховым правядзеньні асеньняй сяўбы, замацаваньні існуючых калгасаў і далейшым разгортваньні калгаснага руху.

Пасьпяховае правядзеньне стаячых перад асеньняй пасеўнай кампаніяй задач мае вялізарнейшае палітычна-гаспадарчае значэньне ў далейшай рабоце па сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі.

Асеньняя сяўба бягучага году павінна забясьпечыць далейшы магутны ўздым калгаснага руху, замацоўваючы і пашыраючы падставы для выкананьня асноўнага лёзунгу партыі суцэльнай калектывізацыі і ліквідацыі на гэтай аснове кулацтва як клясы.

ЦК КП(б)Б **канстатуе,** што з боку паасобных зьвеньняў партыйных, савецкіх і калгасна-каапэрацыйных арганізацый недаацэньваецца значэньне асеньняй пасеўнай кампаніі, правільнага разьмеркаваньня ўраджаю, арганізацыі працы ў калгасах, правільнага правядзеньня хлебазагатовак і неабходнасьці мабілізацыі ўсіх сіл партыйных арганізацый для таго, каб стаць на чале ўжо пачынаючагася новага прыліву бядняцка-серадняцкіх мас у калгасы.

У практычнай падрыхтоўцы да сяўбы мясцовыя партыйныя, савецкія і калгасна-каапэрацыйныя арганізацыі ня прынялі дастатковых мер, забясьпечваючых пасьпяховае ажыцьцяўленьне задач, пастаўленых перад асеньняй пасеўнай кампаніяй, і не ператварылі яе ў важнейшую гаспадарча-палітычную кампанію:

а) Як правіла, давядзеньне плянаў асеньняй сяўбы і мерапрыемстваў да калгасаў і паселішчаў праходзіць са спазьненьнем і з надзвычайна нізкімі якаснымі паказчыкамі плянаў (неканкрэтнасьць, складанасьць і неразумеласьць для шырокіх мас, не па ўсіх раёнах праведзена абгаварэньне плянаў сяўбы на шырокіх вытворчых нарадах пры с/саветах, калгасах, саўгасах і на сялянскіх сходах).

Недапусьціма слаба разгортваецца рамонт с/г. машын і інвэнтару, а месцамі поўная адсутнасьць вучоту інвэнтару, патрабуючага рамонту.

Тэмп разгортваньня абмалоту не гарантуе своечасовай засыпкі насенных фондаў, ачысткі і абмену на гатунковае насеньне да пачатку сяўбы.

б) Шэраг РК і ячэек КП(б)Б не забяспечылі сталым штодзённым кіраўніцтвам работу калгасаў і слаба праводзяць работу па арганізацыі новых і ўцягненьню бядняцка-серадняцкіх гаспадарак у існуючыя калгасы. Значная колькасьць партыйных, савецкіх і калгасна-кааперацыйных арганізацый не падрыхтаваны для таго, каб ахапіць ужо пачынаючыся новы прыліў бядняцка-серадняцкіх гаспадарак у калгасы, у сувязі з чым калектывізацыя ў шэрагу раёнаў прадастаўлена самацёку.

Такое становішча тлумачыцца няўменьнем шэрагу арганізацый увязаць вялізарныя вытворчыя задачы ў галіне сельскай гаспадаркі з галоўнейшай задачай—палітычнай работай па далейшаму разгортваньню калектывізацыі.

в) Дырэктывы ЦК аб шырокім растлумачэньні парадку разьмеркаваньня ўраджаю і прыбыткаў у калгасах, аб правядзеньні справаздачнасьці калгасаў на бядняцка-серадняцкіх сходах у шэрагу раёнаў ня выконваюцца.

Ужо назіраюцца факты парушэньня асноўных дырэктыў аб парадку правядзеньня хлебазагатовак ад калгасаў (устанаўліваюцца цьвёрдыя пайкі, ня выконваюцца дырэктывы аб 5-проц. адлічэньнях для разьмеркаваньня адпаведна ўнесенай калгасьнікамі маемасьці і г. д.).

Партыйныя і калгасна-кааперацыйныя арганізацыі несвоечасова і недастаткова рашуча рэагуюць на маючыяся асобныя выпадкі, калі некаторыя калгасы пад уплывам кулацтва затрымліваюць у сябе таварныя лішкі і не становяцца прыкладнымі ў справе выкананьня сваіх абавязкаў перад дзяржавай.

г) Абураючым прыкладам нядбайнасьці і безадказнасьці, няўменьня практычна арганізаваць масы і ажыцьцявіць намечаныя мерапрыемствы зьяўляецца злачыннае спазьненьне з разгортваньнем сумеснага будаўніцтва і выкананьня плянаў сіласаваньня кармоў (выкананьне па саўгасах—0,6 проц., па калгасах—2,2 проц. і індывідуальных гаспадарках—0,11 проц.).

Но атрымалі таксама належнага разьвіцьця мерапрыемствы па ўздыму ўраджайнасьці (валнаваньне і тарпаваньне глебы).

д) Вучот і інфармацыя аб ходзе падрыхтоўкі да пасеўнае кампаніі з боку раённых арганізацый не наладжаны. Частка раёнаў (Копыльскі, Грэскі, Веткаўскі, Сьвіслаўцкі і інш.) да апошняга часу ня далі ніякай інфармацыі аб становішчы па падрыхтоўцы да асеньняй сяўбы ў гэтых раёнах.

Цэнтральныя і акруговыя газэты не арганізавалі па-баявому работу па асьвятленьні ходу і мабілізацыі мас на правядзеньне ўборкі, падрыхтоўку да асеньняй сяўбы і выкананьне пляну па сіласаваньні.

Выходзячы з гэтага, бюро ЦК КП(б)Б **пастанаўляе:**

1. Задача ўсіх партыйных арганізацый у правядзеньні надыходзячай асеньняй сяўбы заключаецца ў тым, каб, вядучы рашучую барацьбу супроць праваапартуністычнага самацёку і лева-ухілісцкага адміністраваньня ў калгасным руху, арганічна зьвязаць арганізацыю прыліву ў калгасы з уборкай ураджаю, з асеньняй сяўбой і іншымі сельска-гаспадарчымі кампаніямі, з тым, каб сельгас. кампаніі праводзіліся на падставе далейшага магутнага росту калгасаў і каб вясковыя партыйныя арганізацыі зьявіліся сапраўднымі бальшавіцкімі арганізатарамі далейшага магутнага прыліву беднаты і серадняцтва ў калгасы.

2. РК КП(б)Б у бліжэйшыя дні праверыць падрыхтоўку калгасна-кааперацыйных арганізацый да правядзеньня асеньняга севу, ажыцьцяўленьня мерапрыемстваў, забяспечваючых пашырэньне плошчаў пад азімымі культурамі, павялічэньне ўраджаю і палепшаньне кармавой базы. Ліквідуючы ў падрыхтоўцы да сяўбы элемэнты самацёку, бюракратычных адносін, мабілізаваць батрацтва, калгасьнікаў і бядняцка-серадняцкія масы на выкананьне задач пасьпяховага правядзеньня пасеўнай кампаніі.

3. Безадкладна арганізаваць кантроль з абавязковым давядзеньнем плянаў асеньняй сяўбы да вытворчых адзінак і дабіцца таго, каб пляны асеньняй сяўбы былі паўсямесна даведзены да калгасаў, саўгасаў і паселішчаў, забясьпечыўшы шырокае абгаварэньне пляну сяўбы на вытворчых нарадах саўгасаў, калгасаў і бядняцка-серадняцкіх сходах.

Правядзеньне ўсіх задач і мерапрыемстваў арганізаваць мэтадам сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва, уцягваючы ў спаборніцтва і ўдарніцтва ўсе саўгасы, калгасы і асобныя вёскі.

4. Фракцыям РВК і калгасна-кааперацыйных арганізацый дабіцца ўзмацненьня тэмпу абмалоту, стварэньня насенных фондаў, правядзеньня 100-процантнае зернаачысткі, поўнасьцю скарыстаўшы ўсё гатунковае насеньне. Прыняць рашучыя меры да хутчэйшага рамонту машын і максымальнай іх нагрузкі, арганізаваўшы работу машын ў 2-3 зьмены. Дабіцца хутчэйшага сканчэньня работы машын у саўгасах, скарыстоўваючы іх для аказаньня дапамогі калгасам і ваколічным бядняцка-серадняцкім гаспадаркам.

5. Задача далейшага разгортваньня калгаснага руху патрабуе ад кожнай партыйнай арганізацыі ў сапраўднасьці бальшавіцкага кіраўніцтва калгасным будаўніцтвам, разгортваньня і сыстэматычнага правядзеньня масавай работы, у прыватнасьці:

а) РК КП(б)Б у тыднёвы тэрмін праверыць, ці азнаёмлены калгасьнікі з парадкам разьмеркаваньня прыбыткаў і ўраджаю калгасаў, абавязкова забясьпечыўшы правільнае правядзеньне разьмеркаваньня ўраджаю і прыбыткаў калгасаў паміж калгасьнікамі; кан.

крэтная распрацоўка парадку разьмеркаваньня ўраджаю павінна праводзіцца пры шырокім удзеле з боку ўсіх калгасьнікаў;

б) абавязкова выканаць пастанову ЦК аб правядзеньні шырокай справаздачнасьці калгасаў на сходах калгасьнікаў і ваколічных адзінаасобнікаў аб выніках працы калгасаў, даводзячы на канкрэтных прыкладах жыцьця і працы перавагу калектыўнай гаспадаркі;

в) РК і ячэйкі КП(б)Б у значна большай меры павінны выкарыстоўваць адбываючуюся зараз 1-ю Ўсебеларускую выстаўку сельскае гаспадаркі і прамысловасьці для правядзеньня масавай работы за суцэльную калектывізацыю шляхам арганізацыі дакладаў калгасьнікаў і некалгасьнікаў—экскурсантаў беднякоў і сераднякоў на агульных сходах аб выніках агляду выстаўкі і шляхам значна большай пасылкі на выстаўку адзінаасобнікаў-беднякоў і сераднякоў, асабліва жанчын;

г) праверыць работу ячэек па арганізацыі батрацтва і беднаты, рашуча палепшыўшы зьмест работы батрацка-бядняцкіх груп, накіраваўшы працу іх і ўвагу на пытаньні вытворчасьці і барацьбы з кулацтвам.

6. ЦК абавязвае ўсе РК, ячэйкі КП(б)Б і фракцыі калгасна-каапэрацыйных арганізацый усямерна выкарыстаць асеньнюю сяўбу для арганізацыі новых калгасаў, уцягненьня бядняцка-серадняцкіх гаспадарак у існуючыя і разгортваньня вытворчага каапэраваньня, праводзячы гэту работу на аснове поўнай добраахвотнасьці.

ЦК КП(б)Б з усёй сілай асуджае імкненьне некаторых арганізацый адкласьці калектывізацыю і вытворчае каапэраваньне да сканчэньня асеньняй сяўбы і прапануе весьці рашучую барацьбу з недаацэнкай вытворчага каапэраваньня, як з праявамі права-апартуністычнага ўхілу.

ЦК абавязвае РК і ячэйкі КП(б)Б на чарговых пасяджаньнях і сходах праверыць і абгаварыць пытаньне, што зроблена па кожнаму раёну і сельсавету ў справе выкананьня пастаноў XIII зьезду аб вытворчым каапэраваньні і арганізацыі таварыстваў па супольнай апрацоўцы зямлі.

7. Улічваючы, што індывідуальныя бядняцка-серадняцкія гаспадаркі будуць яшчэ займаць у правядзеньні асеньняй сяўбы пераважную ўдзельную вагу, партыйныя, савецкія і калгасна-каапэрацыйныя арганізацыі павінны, улічыўшы вопыт правядзеньня веснавой сяўбы, арганізаваць усямерную дапамогу ў выкананьні бядняцка-серадняцкімі гаспадаркамі ўскладзеных на іх задач па правядзеньні асеньняга севу.

Партыйныя арганізацыі павінны памятаваць, што сутнасьць узаемаадносін з адзінаасобнікамі-беднякамі і сераднякамі заключаецца ў тым, каб, аказваючы ім усямерную дапамогу, уцягваць іх у калгасы.

8. ЦК катэгарычна прапануе праводзіць хлебазагатоўкі ў строгай адпаведнасьці з паказаньнямі ЦК. Не дапушчаць разьмеркаваньня ўраджаю ў калгасах па пайкох, праводзіць процантнае адлічэньне для разьмеркаваньня адпаведна кошту ўнесенай у калгас маемасьці, не дапушчаючы адміністраваньня, а шляхам шырокага правядзеньня масавай работы дабіцца прыкладнасьці з боку калгасаў і калгасьнікаў у правядзеньні хлебазагатовак. Партыйныя і калгасна-каапэрацыйныя арганізацыі павінны весьці рашучую барацьбу з імкненьнямі асобных калгасаў затрымаць у сябе лішкі таварнага хлеба, разглядаючы такія калгасы як ілжэкалгасы, як памочнікаў кулацтву. Адначасова ЦК патрабуе строгага правядзеньня ўстаноўленага парадку загатовак ад індывідуальных гаспадарак, не дапушчаючы перагібаў.

9. НКЗ і саўгаскім цэнтрам забясьпечыць пастаноўку працы ў саўгасах бальшавіцкімі тэмпамі і дабіцца поўнага выкананьня пляну севу і прамфінпляну. Саўгасы павінны зьявіцца прыкладам для калгасаў у справе арганізацыі буйнай сацыялістычнай гаспадаркі.

10. НКЗ, Калгасцэнтру і ўсім каапэрацыйным арганізацыям прыняць усе меры, каб забясьпечыць своечасовую ўборку тэхнічных культур і бульбы. Улічваючы важнае значэньне апрацоўкі ільну і канапель, асабліва пры недахопе мэханічна-заводзкай апрацоўкі, фракцыям, каапэрацыйнай сыстэме забясьпечыць будаўніцтва прасьцейшых установак па пэрвічнай апрацоўцы ільну і канапель, мабілізаваўшы для гэтае мэты ўсе магчымыя срэдкі калгасаў, каапэрацыйных аб'яднаньняў і індывідуальных гаспадарак.

Прэзыдыуму ВСНГ скончыць будаўніцтва ільно-апрацоўчых заводаў ва ўстаноўленыя тэрміны.

11. Адзначаючы зусім слабую работу прафсаюзных арганізацый на вёсцы, асабліва саюзу сельгасрабочых па лініі саўгасаў, прапанаваць ЦСПСБ, фракцыі ЦП саюзу сельгасрабочых узмацніць работу сярод прафсаюзных мас, дабіўшыся значна большай практычнай дзейнасьці іх у справе сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі.

12. Адзначаючы прарывы па вырабу мінэральных угнаеньняў на прадпрыемствах ВСНГ, прапанаваць апошняму прыняць адпаведныя меры да ліквідацыі прарываў, узмацніўшы выраб фасфарытнай мукі, згодна пляновага заданьня. НКЗ і калгасна-каапэрацыйным арганізацыям, а таксама РВК забясьпечыць выкананьне гадавога пляну па валнаваньню і тарпаваньню глебы, асабліва па лініі сацыялістычнага сэктару.

13. Рэдакцыям цэнтральных і мясцовых газэт па-баявому арганізаваць асьвятленьне задач і мерапрыемстваў асеньняй сяўбы, своечасова сыгналізуючы аб прарывах і недахопах да падрыхтоўкі ў правядзеньні сяўбы і шырока асьвятляючы добрыя прыклады работы па выкананьню задач асеньняга севу.

# ТЭЗІСЫ

## да справаздачна-перавыбарчай кампаніі дэлегацкіх сходаў у горадзе і вёсцы

1. Справаздачна-перавыбарчая кампанія дэлегацкіх сходаў у гэтым годзе праходзіць ва ўмовах разгорнутага сацыялістычнага наступленьня на капіталістычныя элемэнты па ўсяму фронту ў Саюзе ССР і найглыбейшага эканамічнага крызісу ў краінах капіталізму, які (крызіс) у шэрагу краін перарастае і будзе перарастаць у крызіс палітычны.

2. Правільнае правядзеньне ў жыцьцё генэральнай лініі партыі забясьпечыла хуткія тэмпы сацыялістычнай індустрыялізацыі нашай краіны і калектывізацыі сельскай гаспадаркі, вялізарны ўздым сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва сярод рабочае клясы, што зрабіла зусім ажыцьцяўляемым лёзунг выкананьня пяцігодкі ў чатыры гады.

Па цэламу шэрагу галін 5-годка будзе выканана ня толькі ў чатыры гады, але і раней. Па нафце плян будзе выкананы ў 2½ гады, па каменнаму вугалю—у тры гады, па вытворчасьці трактароў-- у тры гады, па агульнаму машынабудаўніцтву—у тры гады, па сельгасмашынабудаўніцтву—у 2½ гады. Па БССР за два гады 5-годкі прадукцыя рэспубліканскай прамысловасьці падвышаецца ў 2,6 разы супроць 1,9 разоў вызначаных па 5-годцы.

3. На падставе росту буйнай індустрыі мы маем хуткія тэмпы калектывізацыі сельскае гаспадаркі, што дало магчымасьць у першыя два гады пяцігодкі выканаць пяцігадовы плян па калгаснаму будаўніцтву з перавышэньнем у паўтара разы. Да канца пяцігодкі пасеўная плошча павінна была раўняцца 20,6 міл. га, а на справе ўжо ў гэтым годзе пасеўная плошча калгасаў раўняецца 36 міл. га.

Гэтыя посьпехі зьяўляюцца вынікам правільнай палітыкі партыі і бязьлітаснай барацьбы партыі на два фронты, як з «левымі» загібамі, так і з правым апартунізмам, як галоўнай небясьпекай на даным этапе.

4. У процілегласьць росквіту сацыялістычнае гаспадаркі ў СССР, капіталістычная гаспадарка ў сучасны момант перажывае найглыбейшы эканамічны крызіс, расьце беспрацоўе. Крызіс ахоплівае ня толькі Эўропу, але і Амэрыку, якая да апошняга часу была самай моцнай капіталістычнай краінай.

Дадзены эканамічны крызіс ёсьць крызіс перавытворчасьці, як вынік капіталістычнай рацыяналізацыі і зьвязанага з ёй абнішчаньня шырокіх мас рабочае клясы і працоўнага сялянства (рост беспрацоўя зьніжае зарплату і г. д.).

Эканамічны крызіс з асаблівай сілай абвастрыў усе існуючыя супярэчнасьці між рабочай клясай і капіталістымі ўнутры капталістычных краін, выкрыў сацфашысцкую і здрадніцкую ролю с.-д. у рэвалюцыйнай барацьбе рабочае клясы, з яе тэорыяй «вытворчай дэмакратыі», «прамысловага міру» і г. д. Усё ўзрастаючы рэвалюцыйны рух сусьветнага пралетарыяту і разгортваньне рэвалюцыйна-вызваленчага руху ў калёніях і паўкалёніях (Індыя, Кітай і г. д.) падрывае падмурак капіталістычнага сьвету. Абвастрыліся супярэчнасьці, і пасілілася барацьба між краінамі капіталізму за рынкі збыту, за сыравіну, вываз капіталу і г. д.

Усё больш расьце варожасьць капіталістычных краін да Саюзу ССР, і небясьпека вайны робіцца ўсё сур'ёзьнейшай.

Хуткі рост сацыялізму ў нашай краіне, пасьпяховая індустрыялізацыя і калектывізацыя сельскай гаспадаркі, рост уплыву СССР на працоўныя масы ўсяго

капіталістычнага сьвету ня можа ня выклікаць шаленства клясавых ворагаў як унутры краіны (кулакоў, нэпманаў і ўсіх клясава-варожых элемэнтаў СССР), так і з боку ўсяго абкружаючага нас буржуазнага сьвету, які ўзмоцнена рыхтуе ўзброены напад на СССР.

5. Пасіленьне ваеннай небясьпекі патрабуе ад партыі і ўсяе рабочае клясы напружанай волі і энэргіі для далейшага разгортваньня хуткіх тэмпаў сацыялістычнай індустрыялізацыі нашае краіны, калектывізацыі сельскае гаспадаркі, выкананьня пяцігодкі ў чатыры гады, ажыцьцяўленьня рашэньняў XVI і XIII зьездаў партыі, ліквідацыі кулацтва як клясы на базе суцэльнай калектывізацыі і перамаганьня ўсіх цяжкасьцяй сацыялістычнага будаўніцтва.

На ажыцьцяўленьні гэтых асноўных задач павінна быць сканцэнтравана ўся ўвага, моц і воля шырачэйшых мас работніц, саўгасьніц, калгасьніц, батрачак і бядняцка-серадняцкай часткі вёскі.

6. На базе агульнага ўздыму сацыялістычнай гаспадаркі нашай краіны ўзрасла актыўнасьць і сьвядомасьць работніц і працоўных сялянак у савецкім гаспадарчым будаўніцтве і грамадзкім жыцьці. Напрыклад, колькасьць жанчын у кіруючых органах калгасаў павялічылася (жанчыны ў складзе праўленьня калгасаў складаюць 11,1 проц., падрыхтавана за апошні год 1021 жанчына, альбо 22,6 проц. ад усяго ліку падрыхтаваных кадраў).

Усё больш і больш расьце роля і значэньне жаночай працы ў вытворчасьці; удзельная вага жаночай рабочай сілы ў прамысловасьці БССР на 29/30 г. складае 36 проц., а да канца пяцігодкі дасягне 50 проц., г. зн., паловы ўсіх рабочых, занятых у вытворчасьці. Значна ўзрос і жаночы актыў, цэлы шэраг работніц стаяць на чале адказных вучасткаў работы прафэсійнай, гаспадарчай, савецкай, каапэрацыйнай і інш.

Далейшы рост жаночай працы ў прамысловасьці ідзе галоўным чынам за лік новых кадраў работніц, выхадцаў з мястэчка і вёскі. Гэта ўскладае на партыйныя арганізацыі, а таксама на ўсе прафэсійныя і інш. грамадзка-палітычныя арганізацыі вельмі важную задачу— выхаваць з гэтых вялізарных мас жаночага пралетарыяту клясава-сьвядомых і культурна-здольных будаўнікоў сацыялізму.

Рост жаночай працы ў вытворчасьці і с. г. (калгасы, саўгасы) з асобнай вастратой ставіць пытаньне аб падняцьці вытворчай кваліфікацыі работніц, саўгасьніц і калгасьніц, аб падвышэньні іх культурнага ўзроўню, палепшаньні бытавога абслугоўваньня і ўсямернага ўцягненьня работніц, саўгасьніц, калгасьніц, батрачак, бяднячак і серадняча у вытворчае жыцьцё прадпрыемства, саўгасу, калгасу і вёскі.

7. У справе клясавага выхаваньня працоўных жанчын і ўцягненьня іх у актыўную працу па сацбудаўніцтву апраўдваюць сябе дэлегацкія сходы, як масавая форма работы. Лік дэлегацкіх сходаў і колькасьць дэлегатак з кожным годам расьце. У 1929 г. мы мелі 937 дэлегацкіх сходаў з 28950 дэлегаткамі, у 1930 г.—1154 дэлегацкія сходы з 30329 дэлег. у вёсцы і 130 дэлегацкіх сходаў з колькасьцю 5920 дэлег. работніц і жонак рабочых у горадзе.

Дэлегацкія сходы, як масавая форма выхаваньня жаночага актыву, штогод павялічваюць рэзэрву кіруючых кадраў з жанчын і для папаўненьня шэрагу партыі.

8. На дэлегацкія сходы, як арганізаваную адзінку масы працоўных жанчын, ускладаецца вялізарнай важнасьці задача і абавязак актыўна дапамагаць партыі арганізаваць шырокія масы працоўных жанчын у справе барацьбы за пасьпяховае правядзеньне ў жыцьцё рашэньняў XVI і XIII зьездаў партыі і перамогі ўсіх цяжкасьцяй сацыялістычнага будаўніцтва і, у першую чаргу, у рабочым снабжэньні, шляхам ажыцьцяўленьня сапраўднага рабочага кантролю над работай каапэрацыі і грамадзкага харчаваньня.

Дэлегацкія сходы на прадпрыемствах павінны быць застрэльшчыкамі ў выкананьні пяцігодкі ў чатыры гады шляхам выкананьня і перавыкананьня прамфінплянаў, ліквідацыі прарываў, шляхам пагалоўнага ўдзелу работніц ў сацыялістычным спаборніцтве і ўдарніцтве, ганізацыі сустрэчнага прамфінплян

максымальнымі лічбамі і забесьпячэньня іх выкананьня, ускрываючы ўсе маючыяся ўнутраныя рэсурсы.

Работніцы і працоўныя жанчыны павінны прылажыць усе сілы, удзесяцярыць ініцыятыву і энэргію для ліквідацыі ўсіх недахопаў у вытворчасьці, якія перашкаджаюць пасьпяховаму скончэньню пляну другога году пяцігодкі, што забясьпечыць выкананьне гіганцкай вытворчай праграмы 3-га году пяцігодкі.

Дэлегацкія сходы павінны разгарнуць работу па інтэрнацыянальнаму выхаваньню працоўных жанчын, мабілізаваць іх на барацьбу з контррэвалюцыйным нац.-дэмакратызмам, супроць шавінізму і, у першую чаргу, супроць вялікадзяржаўнага шавінізму, як галоўнай небясьпекі на даным этапе.

9. Уся праца дэлегацкіх сходаў павінна быць шчыльнейшым чынам увязана з канкрэтнай работай па ажыцьцяўленьню гэтых асноўных задач, па ўзмацненьню працоўнай дысцыпліны, рашучай барацьбы з плыўкасьцю рабочай сілы, падняцьця вытворчасьці працы, зьніжэньня сабекошту, палепшаньня якасьці прадукцыі, барацьбы са стратамі ў вытворчасьці і г. д.

Работа дэлегацкіх сходаў у вёсцы павінна быць накіравана на мабілізацыю ўсяе сілы і энэргіі мас калгасьніц, батрачак, беднячак і сераднячак для далейшага разгортваньня калектывізацыі і ўзмацненьня калектыўнай гаспадаркі.

10. Работа дэлегацкіх сходаў калгасаў павінна арганізоўваць усю астатнюю масу калгасьніц на ўзмацненьне працоўнай дысцыпліны, падняцьце вытворчасьці працы, падняцьце прадукцыйнасьці і таварнасьці калектыўнай гаспадаркі, разьвіць у калгасьніц калектыўныя навыкі працы і беражлівыя адносіны да грамадзкай гаспадаркі і г. д.

Дэлегацкія сходы павінны будаваць сваю работу так, каб актыўна дапамагаць партыі ў правядзеньні важнейшых гаспадарча-палітычных кампаній. На чарговы пэрыод дэлегацкім сходам неабходна актыўна ўдзельнічаць у правядзеньні хлебазагатовак, выкананьні плянаў сіласаваньня, зьявіцца актыўнымі ўдзельнікамі ў выкананьні плянаў асеньняй пасеўнай кампаніі, распаўсюджваньні пазыкі «пяцігодка—у чатыры гады».

Работа дэлегацкіх сходаў на вёсцы павінна быць непасрэдна ўвязана з работай с./с., груп беднаты і павінна быць першым дапаможнікам гэтым арганізацыям у правядзеньні мерапрыемстваў партыі і савецкай улады на вёсцы.

Дэлегацкія сходы павінны арганізоўваць калгасьніц, батрачак, беднячак і сераднячак на рашучую барацьбу з ворагам сацыялістычнай перабудовы вёскі—кулаком.

*Аддзел агітацыі і масавых кампаній*
*ЦК КП(б)Б.*




*Адказныя рэдактары:* **О. Канакоцін і А. Гаруновіч**